Спецыяльны нумар

№ 2 (839) 15 студзеня 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Беларуская Гародня

# «Праваліла адбор»

**Звальненне** чарговага **гісторыка** ў Гродне.

З Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы звольнілі гісторыка, кандыдата гістарычных навук Іну Соркіну. Пра гэта паведамілі на старонцы кніжнай серыі «Гарадзенская бібліятэка» ў Фэйсбуку.

«Няма іншых прычын, акрамя палітычных, выкідаць (іначай назваць нельга) з універсітэта навукоўцу і выкладчыцу, якая мае 70 навуковых публікацыяў за апошнія пяць год. Аўтара выдатнай манаграфіі «Мястэчкі Беларусі ў канцы XVII — пачатку XIX стст», грамадзянку, якая актыўна выступала і выступае за захаванне гістарычнай спадчыны Гародні, калегу, якая даводзіла несправядлівасць і шкоднасць для беларускай навукі і прэстыжу ўніверсітэта звальнення з універсітэта гісторыкаў Вячаслава Шведа і Андрэя Чарнякевіча», — гаворыцца ў тэксце паведамлення.

Аўтары заявілі, што Соркіну «замяняюць» на гісторыка Уладзіміра Ягорычава з мянушкай Сталініст — узгадваецца яго падтрымка «афіцыйнага» погляду на гісторыю і асуджальная экспертыза кнігі Алеся Бяляцкага «Асвечаныя беларушчынай».

Сама Соркіна пакуль не каментуе сітуацыі. Маўчаць і яе калегі і сябры: гісторык не хоча розгалasу да падачы апеляцыі. А вось прэс-служба ўніверсітэта паведаміла, што Соркіну ўвогуле не звальнялі — яна не прайшла прафесійны адбор і не была абраная на пасаду дацэнта.

«У Іны Соркінай скончыўся працоўны кантракт, і рада факультэта гісторыі, турызму і камунікацыі праводзіла адбор. На 8 вакантных месцаў прэтэндавала 11 чалавек, і кандыдатура Соркінай не прайшла», — патлумачыла прэс-сакратарка ўніверсітэта Алена Кулеш.

**Кірыла Хілько**

**Ланцужок рэпрэсій**

Рэпрэсіі супраць гродзенскіх гісторыкаў пачаліся ў 2012-м, неўзабаве пасля выхаду кнігі «Гродназнаўства». Першым звольненым выкладчыкам стаў Андрэй Чарнякевіч, афіцыйна за «неадназаровыя спазненні на працу», адно з якіх, дарэчы, якраз было абумоўлена гутаркай з КДБ наконт «Гродназнаўства». Як выявілася пазней, звольніць гісторыка загадаў асабіста старшыня аблвыканкама Сямён Шапіра.

У красавіку 2013-га з універсітэта «сышлі» прафесара Вячаслава Шведа, усё праз тое ж «Гродназнаўства».

У знак пратэсту з ГрДУ звольніўся гісторык Ігар Кузьмініч, які, па ўласных словах, таксама зазнаў прэсінг у 2012-м.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Беларуская дзяржаўная філармонія
Вялікая канцэртная зала
(пр. Незалежнасці, 50)

22 студзеня 19.00

ВАНДРОЎНІК

спектакль-гімн да 70-годдзя Міхася Раманюка

Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь
Мастацкі кіраўнік – заслужаны артыст Расіі Яўген Бушкоў

Фальклор-тэатр "Госьціца"

- этнагурт "Горынь"
- этнасуполка БДУ культуры і мастацтваў
- студэнты творчай майстэрні БДМА заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, прафесара Уладзіміра Мішчанчука

Рэжысёр-пастаноўшчык Ларыса Сімаковіч
Мастак Ірына Мазюк

Пры падтрымцы навукова-вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства беларускіх народных рамёстваў "СКАРБНІЦА"

www.philharmonic.by

Ларыса Сімаковіч ажыццяўляе праект да 70-годдзя з дня нараджэння мастацтвазнаўцы Міхася Раманюка. Раманюк застойныя брэжнеўскія часы за свае грошы абышоў і аб'ездзіў у экспедыцыях усю Беларусь, збіраючы і шукаючы народныя касцюмы, а таксама замалёўваючы іх выгляд.
З студзеня Раманюку споўнілася б 70 гадоў, але юбілей прайшоў амаль не заўважаны. Сярод тых, хто адгукнуўся — Ларыса Сімаковіч. Кампазітар, балетмайстар, мастацкі кіраўнік фальклорнага тэатра «Госьціца», удзельніца легендарнай беларускай «Майстроўні».
Перыядычна Сімаковіч ажыццяўляе ў Філармоніі праекты, прысвечаныя знакавым постацям айчыннай культуры. Сярод іх сучасная містэрыя «Дзень Максіма Багдановіча», рок-опера Мулявіна «Песня пра долю» і rondo-опера «Люцыян Таполя», прысвечаная 100-годдзю Максіма Танка.
У праекце возьме ўдзел Дзяржаўны камерны аркестр (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Яўген Бушкоў), фальклор-тэатр «Госьціца», этнагурт «Горынь», этнасуполка БДУ культуры і мастацтва і студэнты творчай майстэрні Уладзіміра Мішчанчука з Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

**Мікіта Капкоў**

## Моўныя курсы ідуць з аншлагам

«Мова нанова» і «Мова ці кава» адбываюцца ў адзін час.

Ад пачатку года ў Мінску пачалі працу адразу двое моўных курсаў, якія паўсталі на базе леташняй «Мовы ці кавы».

У прасторы «Цэх» (праспект Незалежнасці, 58, корпус 6 — уваход праз вуліцу П.Броўкі) збіраюцца ахвотныя ўзяць удзел у дыскусіі па-беларуску. Арганізатарка гэтых курсаў — журналістка Кацярына Кібальчыч. Яна пакінула за сабой права на брэнд «Мова ці кава».

А ў галерэі «Ў» (праспект Незалежнасці, 37а) праводзяць заняткі Алеся Літвіноўская і Глеб Лабадзенка. Яны назвалі свой новы праект «Мова нанова». Аднак, па сутнасці, гэта працяг леташніх курсаў.

Не абышлося без канфлікту паміж арганізатарамі: за месца і час правядзення заняткаў, а таксама аўдыторыю.

У выніку пакуль што і тыя, і тыя курсы праходзяць па панядзелках а 19-й. Удзел і ў «Мове ці каве», і ў «Мове нанова» бясплатны.

**МК**

## Зянон Пазняк выдаў новую кнігу

У Варшаве выйшла кніга «Тэрра Дэй», у якой сабраныя каля трох сотняў фатаграфій, амаль столькі ж вершаў, дзясяткі апавяданняў, эсэ, артыкулаў. Зянон Пазняк распавёў «Польскаму радыё» пра кнігу.




«Тэрра Дэй» — гэта лацінскі выраз, які абазначае «зямля Бога». Чаму я яе так назваў? Нават не ведаю. Само сабой так атрымалася.

Але падтэкст без намёку: гэтая зямля, гэтыя людзі, гэтае жыццё — гэта ўсё ёсць Божая сіла. З разумення гэтай пазіцыі я і зыходзіў. Але гаворка не пра чыста рэлігійны падыход: гэта шуканне сэнсу жыцця, сэнсу свайго існавання. Гэтаму прысвечана шмат вершаў.

Большыня людзей паводзіць сябе ў жыцці, як не дзіўна, часам невытлумачальна.

Людзі імкнуцца да багацця. Цяжка жыць у беднасці. Беднасць чалавека нявечыць, але дасягнуўшы багацця — яны горшаюць. Багацце знішчае чалавека гэтаксама, як і беднасць.

Парадокс: дасягнуў багацця, але не стаў лепшым чалавекам. Чалавек не думае пра здароўе, пакуль яго не зруйнуе. Ён п'е, валяецца пад платом, займаецца чым папала, жыве нейкім экстрэмалам і думае, што будзе жыць вечна. А калі зруйнуе здароўе, то пачынае пра яго думаць. Кожны хоча жыць. Гэта закладзена ў інстынкце. І часам чалавек ідзе на здзелкі са сваім сумленнем, каб толькі застацца жыць. Але пры гэтым мала хто задумваецца, а дзеля чаго ён жыве? І такія развагі закладзеныя ў аснову гэтай кніжкі.

У прыродзе разлітая прысутнасць Боскай сілы. Я найбольш адчуваю яе ў Беларусі. Гэта мая радзіма, і я найлепш яе разумею».

**Занатаваў Дзмітры Гурневіч**

**Сціслa**

**Аляксандр Фядута выйшаў з «Гавары праўду»**

Намеснік Уладзіміра Някляева хоча сканцэнтравацца на працы па напісанні доктарскай дысертацыі, якую будзе абараняць у Расіі. Аднадчасова Фядута кансультуе ўкраінскія кампаніі па пытаннях піяру.

**Парк Уга Чавеса**

Так назвалі пусты сквер у сталічным спальным раёне Каменная Горка. Апроч таго, каля Парка высокіх тэхналогій з'явіліся вуліцы Агінскага, Ільі Капіевіча і акадэміка Высоцкага.

**Крышціяну Раналду — найлепшы футбаліст свету**

Гулец мадрыдскага «Рэала» і зборнай Партугаліі ўжо прызнаваўся найлепшым у 2008-м. А пасля пачалася эра аргенцінца Ліянэля Месі, які атрымліваў «Залаты мяч» чатыры гады запар.

**Метро дабудуюць на суботніках**

На будоўлі станцыі метро «Малінаўка» будуць праводзіцца суботнікі «з удзелам працоўных калектываў і вучнёўскай моладзі». На аб'екце арганізуюць трохзменны рэжым працы, абы паспець да 1 мая. Тэрмін здачы «Малінаўкі» ўжо не раз пераносіўся.

**ЯМ**

**Рэкамендуем**

**Усім, хто сумуе па СССР**

Фотападборка пра розныя аспекты савецкага жыцця для тых, хто настальгуе па «вялікай краіне».

Чытайце на nn.by

**Апытанне на nn.by**

**На якой машыне павінен ездзіць мітрапаліт?**

| | | |
|---|---|---|
| На дарагой, прэстыжнай | 59 | 4% |
| На простай, эканамічнай | 904 | 62% |
| гэта яго асабістая справа | 504 | 34% |

Прагаласавала 1467

**Самае чытанае на сайце nn.by з 8 да 14 студзеня**

1 21-гадовы сакратар мітр. Паўла атрымаў за 40 дзён тры ўзнагароды, якія трэба чакаць як мінімум 9 гадоў
2 Ніягарскі вадаспад блізкі да поўнага замярзання
3 Тры самыя вядомыя ў свеце беларусы
4 На ЗША абрынуліся фантастычныя снегапады і 40-градусны мароз — фоты
5 Рускія турысты ў Мінску — актуальны плакат
6 Пяць фактаў пра Тэа і яго песню Cheesecake
7 Кіроўца мінскага аўтобуса трапіў за год у 20 аварый і выклаў іх на Youtube — відэа
8 Ролік з Саладухам шакаваў Белнэт — відэа
9 Дзяўчына намалявала эмблему гомельскага футбола на аголеных грудзях — фотафакт
10 Міхаіл не вернецца на Зямлю: мінскі праграміст рыхтуецца да палёту на Марс

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 356-98-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перапказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

Пры аплаце ў банку ці на пошце, бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату». Каждыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтная плацежная сістэма, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Шпацыр па Гародні

## Беларускія мясціны горада




На карце пазначаны маршрут шпацыра, а таксама нумары старонак, на якіх можна прачытаць пра аб'екты.

*Кроў блакітная струменіць...*
*Вусны чорныя маўчаць...*
*Нарадзіцца ў Бэтлееме,*
*У Гародні спачываць.*
***Юры Гумянюк «Шпацыр»***

Сапраўды ў гэтага горада шмат абліччаў. Тут побач існуюць польскі, расейскі, жыдоўскі, савецкі, нават «белорусский» Гродна. Аднак прапанову наведаць менавіта беларускую Гародню і цяпер пачуеш зрэдку.

Тым часам, беларускасць у Гародні, паміж старажытнымі камяніцамі, заўсёды была з'яваю натуральнай. Іншая справа, у чым яна праяўлялася і дзе яе шукаць? Гэтая прысутнасць занадта розная па сваіх праявах у кожную эпоху, каб умясціць гісторыю беларускай Гародні ў нейкія вузкія рамкі этнічных прыкметаў. Напрыклад, для XII ст. — гэта Каложа, а для XIII ст. — гэта «русіны», пра якіх узгадвае «Хроніка Дусбурга». У XIV ст. гэта маглі быць «ліцвіны», з гарнізона крэпасці, што перайшлі на бок Вітаўта. У XVI ст. прывілеі каралевы Боны кажуць пра тое, што Гародня мела адначасова двух бурмістраў: аднаго літоўскага (з каталікоў) і аднаго рускага (з праваслаўных). Калі ў XVIII ст. беларускасць ледзь бачная на старонках гарадскіх кніг у выглядзе лексічных запазычанняў, дык у 1818 годзе прыёр гарадзенскіх кармелітаў, ксёндз Уладыслаў Казакевіч наўпрост запісаў сваё паходжанне як «шляхціц» і «беларус».

«…Горадня, — пісаў **Уладзімір Курбскі**, — уважаецца за адзін з найстарэйшых цэнтраў беларускага адраджэнскага руху. … Яшчэ падчас паўстання 1863 года Горадня была сядзібай Кастуся Каліноўскага, які да паклікання яго на ролю кіраўніка Беларусі і Літвы быў гарадзенскім ваяводам. …Распачаты Каліноўскім рух… не загінуў, а паўстанцкія традыцыі і ідэя беларускага сепаратызму захоўваліся тут яшчэ доўгія гады, аж пакуль не дакацілася сюды новая ажыўляльная хваля нацыянальна-асветніцкай дзейнасці Францішка Багушэвіча і Браніслава Эпімах-Шыпілы».

Па брукаванцы гарадзенскіх вуліц хадзіла шмат беларускіх дзеячаў: Уладзімір Пігулеўскі — будучы консул БНР у Латвіі, Уладзімір Тамашчык — пазней адміністратар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, Дамінік Аніська — карэспандэнт і супрацоўнік беларускіх каталіцкіх выданняў, Вінцэнт Гадлеўскі, Макар Краўцоў, Іван Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі. А чаго вартыя прароцкія ў пэўным сэнсе словы Марыі Канапніцкай: «Гародня… Тое, што там народзіцца калісьці паміж людзей, не будзе Польшчай ці Літвою, але — Беларуссю…».

Менавіта з гэтага моманту, калі быць беларусам пачало азначаць свядомы грамадскі выбар, само слова «беларус» у Гародні можна было пачуць усё часцей і часцей. Аднак толькі абвяшчэнне незалежнасці БНР удыхнула новы сэнс у паняцце беларускасці, раскідаўшы навокал прыкметы няпростага сталення нацыі. З гэтага моманту наяўнасць беларускасці ў Гародні па-сапраўднаму ператвараецца з этнаграфічнай з'явы ў гістарычную падзею, а лёс самога горада будзе непадзельна звязаны з лёсам беларускай дзяржаўнасці. Гародні яшчэ давядзецца пабачыць, як упершыню падымаецца над ёй нацыянальны сцяг, пазнаць гонар звацца «другой сталіцай БНР», каб пазней схаваць як мага глыбей, быццам самую страшную з таямніцаў, сваё беларускае мінулае...

Ён проста не мог не быць у Гародні. Магчыма, першы раз Вацлаў Ластоўскі завітаў сюды яшчэ на пачатку 1910-х гадоў, аб чым ускосна сведчыць ягоны верш, прысвечаны Каложы. Вынікам падарожных нататак Власта (так гучаў адзін з ягоных псеўданімаў) стаў артыкул у «Нашай Ніве» — першая нам вядомая спроба прадставіць беларускі погляд на мінулае Гародні.

«Горадня, — пачынаўся ён, — спрадвечнае паселішча беларускае, людзі тут жылі ў часы далёка сягаючыя за памяць гісторыі; перажывалі яны Каменны і Бронзавы век. Сперша будавалі тут надворныя селішчы, а пасьля на прыткім і высокім беразе Нёмана абаснавалі «горадню», г.зн. месца, абведзенае абгародай і, так ці йначы, умацаванае дзеля абароны ад ворагаў. З часам першачарговая «горадня» ператварылася ў абаронны замак, а каля замка пабудавалася «места» з торжышчамі, тарговымі людзьмі і «славэтным» мяшчанствам. З тых часоў многа вады ўцякло з сівога Нёмана ў мора і з маўклівай Гараднічанкі — у Нёман. Плыла вада, і жыццё памалу, але безупынна змянялося… Адно ўступала месца другому».

Вось з гэткай мэтай — адшукаць беларускае аблічча нашага горада, а дакладней, адрасы ды мясціны, звязаныя з беларускім нацыянальным рухам, — і вырашылі мы выправіцца на шпацыр па беларускай Гародні. Наш шпацыр распачынаецца з левага берага Нёмана — з гарадзенскага Фарштата, адкуль мы пойдзем праз увесь горад, трымаючы накірунак у бок Вільні. «Чаму Вільні?» — можа запытацца нехта. Бо менавіта яна была заўсёды крыніцай натхнення і цэнтрам прыцягнення для Гародні, а таму амаль кожны мясцовы свядомы беларус рана ці позна трапляў у Вільню...



Малюнак Напалеона Орды.

# З Фарштата да кляштара бернардзінцаў

*На тым баку я бачу зоркі —*
*У зацішнай, беднай нізіне*
*Ўляпілі цёмныя прыгоркі*
*Раем фарштацкія агні...*
***Макар Краўцоў***


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

З левага берага Нёмана, ад муроў **Францысканскага касцёла**, адкрываецца адзін з самых прыгожых краявідаў Гародні.

Само ж слова «фарштат» паходзіць з нямецкай мовы і азначае «тылы вайсковых умацаванняў». Стагоддзе таму галоўныя здабыткі гарадзенскага Фарштата былі даволі сціплымі: некалькі казармаў, бровараў, лесапільня, аптэка, касцёл, сінагога, царква ды гатэль «Надзея». Праўда, калі ў самой Гародні каталіцкая інтэлігенцыя гаварыла па-польску, праваслаўная — парасейску, яўрэі — ламанаю расейскаю моваю, дык уласна Фарштат гаварыў па-беларуску.

### «Хатка» з келлі

Кляштар францысканцаў быў заснаваны яшчэ ў 1635 годзе, аднак манахі-францысканцы даўно ўжо яго пакінулі. А пакольскі здымаць пакой на другім беразе Нёмана каштавала вялікіх грошай, хлопцы-беларусы з Сакольшчыны, якія прыехалі вучыцца ў гімназіі — Янка Ляўковіч, па мянушцы Капяльдудка, Адольф Зянюк ды Баляслаў Грабінскі, — спыніліся ў кляштары. Яны падзараблялі рэпетытарствам з пляменнікамі ксяндза-пробашча, а за гэта мелі сталаванне і келлю на Фарштаце.

Сябры займалі адну з келляў кляштара, якая, пэўна, захавалася і да нашага часу. Утрох яны належалі да гуртка беларускай моладзі «Хатка». Сам гурток лічыцца першай беларускай арганізацыяй у Гародні. Праўда, ён хутчэй нагадваў зямляцтва, аб'ядноўшы пераважна выхадцаў з Сакольшчыны. Сваю працу гуртКоўцы пачалі са стварэння ўласнай бібліятэкі, а ўжо ў лютым 1910 года адбылася першая ў Гародні беларуская вечарына.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Усведамленне свайго месца пад сонцам прыйшло разам з пачуццём уласнай годнасці як народа. «Горад гэты беларускі, — пісаў адзін з гуртКоўцаў на старонках «Нашай Нівы», — але дагэтуль аб беларусах нешта мала было чутно, і толькі цяпер пачалі яны тут будзіцца. Спачатку, праўда, ішло туга, але пасля штораз болей і болей пачалі цікавіцца беларускім адраджэннем, і вось цяпер ужо мае нямала беларусаў, каторыя душой і сэрцам прыналежаць да сваёй бацькаўшчыны».

Да таго ж у 1913 годзе накладам у пяцьдзясят асобнікаў гуртКоўцы выдаюць літаратурны альманах «Колас беларускай нівы». Ён быў напісаны ад рукі беларускай лацінкай і адбіты на шапірографе.

«З радасцю глядзелі мы на гэты колас, — гаварылася ў **прадмове да выдання**, — хоць адно зярне, пранесенае з далёкіх старон, не прапала дарма! Ён нам дарагі, бо поўны зярнятак новых, можа, невельkіх і недаспелых, але здаровых і родных. Цяпер кідаем мы гэты колас на ветры буйныя. Хай ухопяць яны яго, нясуць па нашай старонцы і рассыпаюць зернятКі на раллю родну. А мо хоць адно зярнятка ўпадзе на раллю добру і выдасць хоць маленькі, найменшы каласочак з параю зярнятак: зярнятак кахання бацькаўшчыны і братоў родных».

Гурток праіснаваў амаль да пачатку Першай сусветнай, а лёс яго-ных сяброў склаўся па-рознаму: Станіслаў Грынкевіч працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, Зыгмунт Абрамовіч выступаў у першай беларускай трупе, Адам Бычкоўскі ўдзельнічаў у першай пастаноўцы купалаўскай «Паўлінкі». ГуртКовец Канстанцін Пушкарэвіч — перакладчык, мовазнавец, доктар філалагічных навук — загінуў у блакадным Ленінградзе, літаратурны крытык Уладзіслаў Чаржынскі перажыў ссылку.

Што ж тычыцца вышэйзгаданых сяброў, дык Адольф Зянюк стаў апошнім старшынёй гуртка, Язэп Лявіцкі загінуў на фронце. Трэці з хлопцаў, Баляслаў Грабінскі, пазней стаў старшынёй Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай партыі.

Усё атрымалася амаль як у прадмове да часопіса, які яны выдалі: «...З радасцю глядзелі мы на гэты колас..! Ён нам дарагі, бо поўны зярнятак новых, можа, невялікіх і недаспелых, але здаровых і родных...»


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Заснавальнікі першага беларускага гуртка здымалі келлю ў францішканцаў**

### Гурток айца Францішка

...Прайшоўшы па мосце, які раней насіў назву ў гонар аб'ядНання Беларусі, спынімся каля **касцёла Знаходкі Святога Крыжа** і былога манастыра бернардзінцаў.

Сам касцёл пачаў будавацца яшчэ ў 1602 годзе, а сёння ў былым кляштары размясцілася Вышэйшая рымска-каталіцкая духоўная семінарыя. Менавіта тут адным восеньскім вечарам 1909 года ў цеснай кватэрцы ксяндза Францішка Грынкевіча і быў заснаваны гурток беларускай моладзі.

Айцец Францішак паходзіў з сялянскай сям'і з Сакольшчыны, а беларускай справай пачаў цікавіцца яшчэ падчас вучобы ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Амаль адразу пасля прызначэння на службу ў Гародню ён пачаў беларускую асветніцкую дзейнасць сярод мясцовай моладзі, паказаўшы сябе як добры арганізатар.

Фактычна, ён патранаваў гурток на працягу двух гадоў. Грынкевіч адным з першых перадаў у бібліятэку гуртка кнігі з уласных збораў, разам з гуртКоўцамі ездзіў дамаўляцца аб правядзенні беларускіх вечарын. Пазней ён супрацоўнічаў з беларускай каталіцкай газетай «Bielarus», дапамагаючы ёй матэрыяльна, ды прымаў удзел у выданні першага беларускага каталіцкага малітоўніка. Памёр айцец Францішак 26 ліпеня 1933 года, пахаваны на старых каталіцкіх могілках у Гародні.

«Рэвалюцыя і вайна, — піша **Адам Станкевіч**, — а ў іх выніку ўваскрашэнне Польшчы, стварылі цалкам новыя варункі і новыя заданні беларускай справе, да якіх дастасавацца і сярод якіх актыўна працаваць кс. Ф.Грынкевіч ужо не патрапіў, бо з'явіўся факт змагання з палякамі, а яны ж яшчэ ўчараўшыя яго саюзнікі. Пры тым трэба сцвердзіць, што ён не цалкам яшчэ ў сваей нацыянальнай свядомасці быў вызваліўшыся з польскай стыхіі. Нейкія духоўныя ніці злучалі ягонае беларускае сэрца з пальшчызнай, і балела яму, калі іх рвалі беларусы. І ён сваю працу спыніў. Прадваенная ж яго беларуская праца — гэта прыгожая бачына ў гісторыі беларускага культурнага адраджэння, запісанае беларускім каталіцкім ксяндзом, а змест якое хрысціянскі і беларускі народніцкі».

З іншых дзеячаў беларускага каталіцкага руху, звязаных з Гародняй, варта ўзгадаць ксяндзоў Вінцэнта Гадлеўскага, Адама Станкевіча, Уладзіслава Талочку, Віктара Шутовіча, Радзько і Бароўку. Асабісты сакратар віленскага біскупа Юрыя Матулевіча ўспамінаў, што падчас пастарскага візіту ў Гародню той сустракаўся з суполкай мясцовай беларускай інтэлігенцыі, прадстаўнікоў якой ён у сваім лісце назваў «свядомымі». Аднак трохі пазней, у міжваенны час, беларускі нацыянальны рух і каталіцкі касцёл існавалі ў Гародні амаль не сутыкаючыся адзін з адным.

# Барысаглебскі манастыр

*Вітай жа, Горадзень, дзяціну*
*Тваіх муроў, тваёй раллі.*
*Хоць ты прытулішчам*
*будзь сыну —*
*Выгнанцу роднае зямлі!*
***Макар Краўцоў***

Якраз праз дарогу, насупраць касцёла бернардзінцаў, знаходзіцца будынак драматычнага тэатра. Пабудаваны ён у пачатку 1980-х гадоў на месцы кляштара бернардзінак, пазней зачыненага расійскімі ўладамі і перададзенага Барысаглебскаму праваслаўнаму манастыру. Па сутнасці, адсюль, з Барысаглебскага манастыра па вуліцы **Маставой, 9**, і пачыналася «другая сталіца БНР», як пасля назавуць Гародню.



Над брамаю манастыра на святы лунаў бел-чырвона-белы сцяг

## Дзіцячы прытулак — цэнтр беларушчыны

Гледзячы на грандыёзны будынак драматычнага тэатра з фантанамі і тэрасамі, вакол якога вечарамі віруе гаваркі натоўп аматараў сцэнічнай драмы, цяжка ўявіць сабе тое павольнае, ціхае жыццё, якое было тут, на гэтым узгорку, за манастырскімі сценамі ў пачатку мінулага стагоддзя. Аднак у гады пераваротаў і рэвалюцый манастыр таксама мог стаць месцам публічных пасяджэнняў і сходаў, нягледзячы на сваё першапачатковае прызначэнне.

У цэнтр беларускага жыцця гэтае месца пераўтварылася выпадкова, калі ў 1915 годзе сюды з Красностока быў пераведзены дзіцячы прытулак для дзяўчынак. Адначасова з пачаткам Першай сусветнай вайны і суцэльнай эвакуацыяй Гарадзеншчыны летам 1915 года адгарнулася новая старонка ў гісторыі беларускага руху. «З адыходам расейцаў з Гародні, — пісала віленская беларуская газета «Гоман», — адразу выявілася, што ўся маскоўшчына ў нас была толькі наносная. Цяпер расійскай мовы на вуліцах зусім не пачуеш. Затое скрозь чутна наша родная беларуская мова. Людзі, каторым перш розныя «дабрадзеі» намаўлялі, быццам «сорамна» гаварыць «папросту», цяпер смела і голасна гавораць па-свойму...»

## Першая школка

Ужо ў 1917 годзе ў Гародні ствараецца філія Віленскага беларускага дабрачыннага таварыства «Золак» па дапамозе бедным дзецям, сіротам і інвалідам. «Золак» бярэ на сябе догляд праваслаўнага прытулку і адначасова стараецца надаць яму беларускі характар. Да таго ж менавіта тут, у манастырскіх скляпеннях, яшчэ ў красавіку 1916 года па ініцыятыве В.Ластоўскага і А.Луцкевіча была адчынена першая ў Гародні беларуская школка. Яе настаўнікамі сталі 18-гадовая Тэкля Станішэўская і старэйшы за яе на пяць год Аляксандр Грыкоўскі.

«Як прыемна, як хораша было на сэрцы, — узгадваў пазней урокі ў першай беларускай школе карэспандэнт «Беларускай нівы», — чуць першыя дэкламацыі вершаў у родным слове або спеў харавых мелодый. Дзеці былі захоплены навукаю; мімавольна вычувалася стараннасць у зразуменні навукі і яе багацця. Тут не было перафарбоўкі духу ў дзяцей, але самастойна кавалася і расла любоў да матчынага слова, да бацькоўскай гутаркі».

Два гады цяжкай, самаахвярнай працы каштавалі Тэклі Станішэўскай і Аляксандру Грыкоўскаму жыцця. Кволае здароўе маладых настаўнікаў не вытрымала ўсіх выпрабаванняў, і яны амаль адначасова захварэлі на сухоты. Першым у сярэдзіне сакавіка 1919 года ў самой Гародні памірае Грыкоўскі, а яшчэ праз месяц з Вільні прыйшла сумная вестка аб смерці і Тэклі Станішэўскай...



Касцёл бернардзінцаў (злева) і касцёл бернардзінак (справа) на малюнку Напалеона Орды



Беларуская кнігарня ў Гародні, пачатак 1930-х г.



Янка Натусевіч.

## Двое адданых беларусаў

Тым часам, восенню 1918 года, у Барысаглебскім манастыры размясцілася першая ў Гародні легальная беларуская арганізацыя — Сувязь культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі. Утварыла яе невялічкае кола мясцовых «свядомых» беларусаў: А.Грыкоўскі, Я.Натусевіч, А.Якубецкі, Л.Дзекуць-Малей, Р.Злоцкі, У.Курбскі, С.Качынскі — усяго каля дзесяці чалавек.

Аднак, каб весці палітычную барацьбу, ім трэба было выступаць ад імя ўсяго народа, і Сувязь змяніла назву на Гарадзенскі Беларускі нацыянальны камітэт. 1 снежня 1918 года ў будынку манастыра адбываецца з'езд «праваслаўнага насельніцтва» Гарадзенскай губерні. З амаль двухсот ягоных дэлегатаў толькі двое адкрыта выступілі ў абарону беларускасці: прадстаўнікі Гарадзенскага Беларускага нацыянальнага камітэта — Янка Натусевіч і Андрэй Якубецкі. Андрэю Якубецкаму нават удалося заняць месца намесніка старшыні сходу. Але барацьба была няроўная. Ягоная прапанова, каб выкладанне ў вясковых школах вялося толькі на беларускай мове, выклікала буру пратэстаў. Якубецкага падтрымаў Янка Натусевіч. У пратаколе сходу асобна адзначана, што ён быў адзіным, хто выступаў па-беларуску. «...Мы не павінны адмаўляцца ад сваёй роднай беларускай мовы, — пачаў ён. — Не забудзьце, што за нашу мову шмат хто пацярпеў!.. Той беларус, — скончыў ён сваю прамову, — хто гаворыць па-беларуску!»

У той час, калі ў Гародню з Вільні пачалі з'язджацца ўрадаўцы БНР, беларускі прэм'ер Антон Луцкевіч здолеў ацаніць іх працу. «Малая іх жменька, — пісаў ён у сваім дзённіку, — але яны... смела выступілі ад імя беларусаў». Пазней частка сяброў Гарадзенскага Беларускага нацыянальнага камітэта далучаецца да стварэння антыпольскага падполля і партызанскага руху.

## Няўдалыя планы эсэраў

Барацьбу ўзначаліла партыя беларускіх эсэраў. Паводле плана, на Віленшчыне паўстанне павінны былі ўзняць літоўцы, тады як на Гарадзеншчыне — урад БНР і эсэры. Кіруючым цэнтрам беларускага антыпольскага руху ў Гародні стаў Гарадзенскі Беларускі нацыянальны камітэт, а канспіратыўныя сустрэчы падполля адбываліся ў будынку Барысаглебскага манастыра ў памяшканні беларускай школкі. Абавязкі падпольнага каменданта горада выконваў А. Трыпуза. Ужо зімою 1922 года распачынаецца падрыхтоўка да тэрарыстычных акцый. Партызаны рыхтавалі выбух у штабе польскага камандавання ды замах на гарадзенскага старасту. Аднак здзейсніць свае планы па арганізацыі ўсеагульнага паўстання беларускім эсэрам не ўдалося.

Тым не менш Барысаглебскі манастыр у Гародні яшчэ доўга заставаўся прытулкам беларускасці. Тут размяшчаліся канцылярыя Беларускай вучыцельскай рады, сакратарыят Беларускага пасольскага клуба, і Беларуская школьна-прытулкавая рада, Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны, рэдакцыя газеты «Сялянская гутарка», беларуская кнігарня і аддзяленне Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У манастырскіх келлях знайшлі сабе прыстанак многія з мясцовых беларускіх дзеячаў.

Да таго ж над брамаю манастыра на святы лунаў бел-чырвона-белы сцяг як сімвал беларускасці. Даўжэй за іншых пратрымаўся тут беларускі прытулак. Адным з яго кіраўнікоў была Станіслава Буйло — родная сястра беларускай паэткі Канстанцыі Буйло-Калечыц.

«Дзядзечка даражэнькі! — пісала Станіслава Буйло ў красавіку 1921 года з Гродна ў Варшаву да Лявона Дубейкаўскага. — «Як трывога, дык да Бога». Таксама і я. Так цяпер у нас пагана жывецца без грошаў, што… з гэтай бяды села і Вам пісаць. Можа, Дзядзечка, Вы так дзе выклянчыце трохі грошаў… Ад урада не атрымліваем грошаў саўсім. Нават у магістрату нам не далі за два месяцы… А тут, як на большае нашае гора, цэны страшэнна пайшлі ўгару. Кожны месяц у нас быў расход 40 тысячаў, а ў гэтым дзеці галадалі і расход — 70 тысячаў. На дзяцей я проста глядзець не магу. Вакон няма, дзверы не зачыняюцца. Дзеці лёгка адзеты, галодныя, гэта штосьці страшэннае… Я з гэтага ўсяго расхварэлася і ляжу ўжо другі тыдзень, але добра, што хоць цяпер нічога не бачу і не ведаю… Дык хутка, мусіць, і трэба будзе перастаць есці — прадуктаў жа амерыканскіх толькі яшчэ на дзён сем хопіць. Палажэнне страшэннае… Калі можаце, Дзядзечка, памагчы чым-небудзь, дык памажыце».

Напрыканцы 1920-х гадоў, пасля больш чым дзесяцігадовага існавання, беларускі прытулак знік з карты Гародні, а разам з ім згас беларускі агеньчык у Барысаглебскім манастыры.

*Сяджу перад Фарным касцёлам*
*пры Богу на лаўцы.*
*Гародня віруе наўкола*
*на пляцы.*
*Стараецца час незваротны.*
*Яму не належаць*
*Анёлы спрадвечнай Гародні*
*на вежах...*
***Данута Бічэль-Загнетава***


Былы палац Радзівілаў.

# Плошча

Рынак, Ратушная, Гандлёвая, Парадная, Саборная, Фарная плошча, plac Stefana Batorego, Kirchplatz — вось няпоўны пералік назваў гэтага месца цягам апошніх шасцісот год. Ад старой, «сапраўднай», плошчы перад Фарным касцёлам ходу ўсяго толькі некалькі хвілін уздоўж былой фабрыкі Шарашэўскіх. Аднак беларусам, перш чым яны выйшлі з-пад манастырскіх скляпенняў на шырокі гарадзенскі абшар, пераўтварыўшы ідэю нацыянальнага адраджэння з кволай мроі ў палітычную сілу, спатрэбілася даволі часу.

На пачатку 1920-х гадоў услед за Францішкам Грынкевічам і ягонымі паслядоўнікамі, якія кінулі першыя беларускія зярняткі на гарадзенскую глебу, прыйшла чарга для новых сейбітаў беларускасці. Яшчэ ў канцы 1918 года тут, у зале афіцэрскага казіно ў так званым доме Мураўёвых (сёння гэта **Савецкая плошча, 2**), зладзілі першы ў горадзе беларускі мітынг. Аркадзь Смоліч праз гады ўзгадваў, што «лозунгі БНР карысталіся тады ў Гародні поспехам». Тады ж тут была створана Беларуская павятовая сялянская рада, якую ўзначаліў Андрэй Якубецкі.


Адам Станкевіч.

Аднак сапраўдным выпрабаваннем на сталасць для беларускага руху сталі выбары ў першы польскі сейм у канцы 1922 года. Тады ў якасці адзінага палітычнага цэнтра ствараецца Беларускі выбарчы камітэт у Гародні. Першымі гарадзенскімі беларускімі пасламі сталі Сяргей Баран і Сямён Якавюк. Ужо ў хуткім часе яны разам выступалі на мітынгу ў Гародні ў былым палацы Радзівілаў, чые падмуркі сёння апынуліся пахаванымі пад пліткай Савецкай плошчы. «Народу сабралася поўная зала, — апісваў на старонках «Крыніцы» свае ўражанні адзін з прысутных. — Прамову сваіх пасолў выслухалі з вялікай цікавасцю. Ад іх мы многа чаго даведаліся і ўпэўніліся, што не памёр і не памрэ яшчэ беларускі народ. Ах, як было б добра, каб часцей яны прыязджалі!»

Усяго праз месяц пасол Баран быў арыштаваны і ў хуткім часе асуджаны па абвінавачванні ў падрыхтоўцы пастання (а загінеё ён у савецкім ГУЛАГу). Пазней на плошчы ад імя беларускага пасольскага клуба выступіў Сымон Рак-Міхайлоўскі. У Гародню прыязджаюць і іншыя беларускія дэпутаты: Браніслаў Тарашкевіч, Васіль Рагуля і Фабіян Ярэміч, сенатар Аляксандр Уласаў. Толькі Павел Валошын быў тут каля дзесяці разоў. Прамовы гучаць ужо не толькі на плошчы, але па ўсім горадзе і набываюць усё большую рашучасць.

І зноў улады, каб стрымаць беларускі рух, вярнуліся да правераных сродкаў. Аднак арышты беларускіх пасолў-грамадоўцаў і судовы працэс над імі прывялі толькі да часовага зацішша: Флягонт Валынец, Ігнат Дварчанін, Іван Грэцкі і Павел Крынчык неаднойчы наведваюцца на Гарадзеншчыну. У жніўні 1929 года ў самой Гародні пачаў дзейнічаць павятовы сакратарыят «Змагання».

Так атрымалася, што амаль усе беларускія дэпутаты прайшлі праз турмы, прычым не толькі польскія, але і савецкія.



# Турма

*— Што ж ты, хлопча,*
*раскідаешся гадамі,*
*Год — у Гродне, у Вілейцы — год...*
*Пазнаёміўся з турмой-мадамай,*
*Зацягнуў цябе дрыгвяны*
*вір балот...*
***Валянцін Таўлай***

Вось яшчэ адзін адрас, па якім можна пабачыць беларускасць нашага горада.

Вуліца Кірава, на якой знаходзіцца «казённы дом», якраз выходзіць на плошчу. Сама вуліца сфарміравалася яшчэ ў XV ст. Гісторыя ж вязніцы бярэ свой пачатак з 1802 года, калі пад губернскую турму быў адведзены двухпавярховы каменны флігель, які ўваходзіў у комплекс былога езуіцкага калегіума.

За царскім часам у гарадзенскую турму з беларускіх дзеячаў, здаецца, ніхто патрапіць не паспеў. Затое ў Польшчы гэта сталася беларускай Меккай. Адны́мі з першых гарадзенскую вязніцу «пакаштавалі» беларускія эсэры: Т. Грыб, П. Мядзёлка, Я.Натусевіч.



Тым не менш і ў гісторыі здараюцца выключэнні, а таму не заўсёды беларусы былі толькі вязнямі турмы. Гэтак падчас бальшавіцкага панавання старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта С. Баран стварыў камісію па пераглядзе спраў зняволеных. Праўда, пазней ён сам правёў тут некалькі гадоў...

Беларускія партызаны займалі ў гарадзенскай турме дзве камеры — №2 і 3. Аднак, напэўна, самым вядомым беларускім вязнем гарадзенскай турмы з'яўляецца Браніслаў Тарашкевіч. Сваё зняволенне ён адбываў у адзіночнай камеры пад №45. Яго ўтрымлівалі як асабліва небяспечнага злачынцу і нават на шпацыр выводзілі асобна ад іншых. Праўда, гэта не перашкодзіла яму падчас зняволення перакласці на беларускую мову паэму «Пан Тадэвуш».

У адрозненне ад іншых беларускіх адрасоў, гарадзенская турма працуе і цяпер.

# Ад Маркевіча да Маркевіча

*Снег ідзе. Наляцела*
*на Гродна зіма.*
*Ходнік слізкі і вузкі.*
*Мур высокі. Турма.*
*Сягоння з гэтага боку гуляю*
*міма яе.*
*А што адбудзецца заўтра —*
*маўчаць анёлы мае...*
***Алесь Чобат «Турма»***

Раптам на памяць прыйшлі словы Эклезіяста, які, расчаравананазіраючы за навакольным жыццём, калісьці сказаў: «Няма нічога новага пад сонцам...» Прайшло амаль тры тысячы гадоў, а мы толькі можам паўтарыць гэтыя ж словы наўздагон за біблейскім прарокам.

«За панскай Польшчай» у Гародні было больш за дзясятак спраў над мясцовымі беларусамі. За журналісцкую дзейнасць беларусаў спрабавалі судзіць толькі тройчы.

Летам 1919 года беларускія эсэры пачынаюць выдаваць у Гародні газету «Родны край», якую ўзначаліў Міхась Маркевіч. У артыкуле пад назвай «Правам ці мячом» было напісана: «Трэба браць у рукі меч ці касу і ісці руйнаваць гнёзды аднагаловых і двухгаловых арлоў, якія расселіся на беларускай зямлі». Гэткія алегорыі не маглі прайсці незаўважанымі, палякі газету закрылі, а яе супрацоўнікі ледзь пазбеглі суда.

Больш чым год у Гародні не было ўласнага беларускага выдання. І вось, нарэшце, з 2 кастрычніка 1920 года пачынае выходзіць газета «Беларускае слова», рэдактарам якой стаў Уладзімір Шалешка. Аднак ужо праз некалькі месяцаў газета была закрыта, а супраць рэдактара была заведзеная крымінальная справа за передрукоўку артыкула «Адна вера, ды не адзін народ». Ратуючыся ад турмы, рэдактар апынуўся ў Вільні, адкуль пазней перабраўся ў Менск.

Трэці раз гарадзенскія беларусы трапілі пад суд летам 1929 года за аднадзёнку «Пралом» — выданне Гарадзенскага акруговага праўлення ТБШ. Увесь наклад газеты быў канфіскаваны, а ягоныя аўтары, Надзея Ламашэвіч, Язэп Баліцкі ды іншыя, апынуліся за кратамі...

Ужо ў незалежнай Беларусі праз семдзесят год пасля закрыцця польскай санацыяй апошняй беларускай газеты ў Гародні распачаўся чарговы працэс над беларускім выданнем. Усё паўтарылася, быццам бы ў крывым люстэрку, нават прозвішча: адзін Маркевіч змяніў другога, толькі на гэты раз размова пра рэдактара беларускай газеты «Пагоня»...

Наогул, першай гарадзенскай беларускай газетай можна лічыць «Беларускі народ». Яна пабачыла свет яшчэ ў нямецкую акупацыю на пачатку 1919 года і дажыла толькі да другога нумара. Вясной таго ж года выйшла некалькі нумароў «Бацькаўшчыны», «Зоркі» і «Беларусі». Усяго некалькі нумароў налічвалі паланафільскія «Беларускі шлях», «Сялянская гутарка», «Беларуская доля» ды газеты левaрадыкальнага накірунку: «Вясковы пралетары», аднадзёнкі «Выстрал» і «Гудок». Л.Дзекуць-Малей спрабаваў выдаваць беларускі баптысцкі часопіс, быў надрукаваны на гектографе першы нумар газеты «Змагар».

З усіх гарадзенскіх беларускіх выданняў найбольшую колькасць нумароў мела «Беларускае слова» — больш за сто. Даўжэй за ўсіх, каля двух гадоў, выходзіла «Беларуская думка» — з кастрычніка 1930 па 1932 год.

Як ні дзіўна, побач з турэмнымі мурамі можна знайсці адразу некалькі адрасоў, па якіх у розныя часы месціліся рэдакцыі гарадзенскіх беларускіх газет. Рэдакцыя «Беларускай думкі» месцілася побач з турмой, у доме Марыі Венжык-Відаўскай — цяпер гэта дом па адрасе **Кірава, 5**. Будынак вядомы яшчэ і тым, што тут пэўны час жыў Лазар Заменгоф — стваральнік мовы эсперанта.

А вось «Пагоня» апошні прыстанак знайшла сабе па вуліцы **Маркса, 11**, што якраз па другі бок ад езуіцкага калегіума. Некалькі год запар, перад тым як адсюль былі канчаткова выселены беларускія ўстановы, у тым ліку «Бацькаўшчына», БНФ ды беларуская кнігарня, гэты дом заставаўся адзіным месцам у горадзе, над якім лунаў нацыянальны штандар.

# З вуліцы Маркса на Рынак

*Гарадзенцы — дзіўныя людзі*
*(па сабе ведаю).*
*Яны чамусьці ўпэўнены, што*
*нават сонца ўстае на захадзе...*
***Аляксандр Фядута***




Сучасная вуліца Маркса ў XVI стагоддзі была вуліцай рамеснікаў і магнатаў. Сённяшні выгляд яна набыла, галоўным чынам, пасля вялікага пажару 1885 года, у якім згінула значная частка Гародні. Сярод таго, што захавалася, былі брыгіцкі кляштар ды Батароўка. Якраз паміж Батароўкай і брыгіткамі, у доме па адрасе **Маркса, 4**, пэўны час жыла Людвіка Сівіцкая, больш вядомая пад сваім псеўданімам — Зоська Верас.

У Гародню яна прыехала з бацькамі ў 1909 годзе і тады ж стала адной з заснавальніц гарадзенскага гуртка беларускай моладзі. Зоська Верас выконвала абавязкі бібліятэкара пры гуртку, выступала ў спектаклях, перакладала для пастановак п'есы польскіх аўтараў, вяла заняткі з малодшай секцыяй, займалася арганізацыяй выступленняў на вёсцы, ліставалася з беларускімі дзеячамі з Пецярбурга і Вільні.

«Наш дом стаў кватэрай гуртка, — узгадвала пазней Л.Сівіцкая. — Сюды перанеслі бібліятэку. Тут адбываліся рэпетыцыі хору, спектакляў, лекцыі і вечарынкі для малодшай секцыі. Заўсёды былі ў нас сябры з гуртка». Трэба асобна адзначыць, што Зосьцы Верас належыць і асабліва важная роля ў захаванні спадчыны гуртка. Менавіта яна прычынілася да захавання памяці пра першую беларускую арганізацыю Гародні, далучыўшы праз гэта да беларускага руху ўжо новае пакаленне мясцовых беларусаў.

У адрозненне ад Вільні, дзе сфармавалася традыцыя беларускага нацыянальнага руху, у Гародню беларускае адраджэнне прыходзіла хвалямі, адшукваючы з кожным разам усё большую колькасць прыхільнікаў, з тым каб пазней зноў знікнуць, амаль не пакідаючы слядоў. Напэўна, асаблівую ролю ў гісторыі беларускай Гародні постаць Зоські Верас займае менавіта таму, што гэта яна здолела пранесці праз дзесяцігоддзі ўспамін пра першыя крокі беларускасці ў нашым горадзе. І гэта дзякуючы ёй упершыню, магчыма, захавалася сувязь паміж пакаленнямі, паклаўшы пачатак традыцыі беларускага адраджэння ўжо ў сучаснай Гародні.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дарэчы, гэтая камяніца стала прытулкам шмат каму з беларусаў. А ўсё таму, што тут нейкі час знаходзілася праваслаўная кансісторыя. Наогул, да Першай сусветнай вайны праваслаўная царква глядзела на «беларускае пытанне» як на польскую інтрыгу. Той постацыю, якая злучыла паміж сабою праваслаўную царкву і беларускі рух, стаўся былы протаіерэй Барысаглебскага манастыра Іаан Карчынскі.

Калі ў канцы вайны айцец Іаан вярнуўся на радзіму, перад ягонымі вачамі паўсталі не толькі зруйнаваныя хаты і скалечаная гаспадарка, але і цэрквы, перароблены ў касцёлы. Магчыма, што менавіта гэта і падштурхнула яго да актыўнай грамадскай працы ўжо на новай, беларускай глебе. Пазней ён становіцца адным з арганізатараў беларускага антыпольскага партызанскага руху і нават піша брашуры, напрыклад: «Чаго чакаць беларусам, асабліва праваслаўным, ад Польшчы. Гутарка дзеда да малодшых».

Дарэчы, у гэтым жа самым доме жылі Пятро Юрэчка ды адзін з лідараў беларускіх эсэраў Рыгор Злоцкі. Абодва яны былі арыштаваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да беларускай партызанкі.

Вядома ж, вуліца Маркса багата таксама і на іншыя беларускія адрасы. Тут працаваў беларускі Саюз спажывецкіх кааператываў, знаходзілася Беларуская нацыянальная радыкальная партыя, жылі І. Тарасевіч — настаўнік гарадзенскай беларускай школы — і Францішак Грынкевіч...

Побач, на вуліцы Гараднічанскай, жылі бацькі Уладзіслава Талочкі. «Ксёндз Талочка, — пісаў пра яго Адам Станкевіч, — быў кіраўніком, і галавой, і будзіцелем беларускага каталіцкага руху як такога. Усё, што тады рабілася беларускае каталіцкае, — гэта была яго справа». Сам Талочка падчас беларускай канферэнцыі ў Вільні ў 1918 годзе меў сказаць: «…Няма на свеце вялікшага граху крыўды, як душагубства, пакрыўджанне малых, забойства. З гэтых некалькіх слоў ужо ясна, дзе маё месца, як каталіцкага ксяндза, звязанага паходжаннем з беларускім народам. Яно ж, маё места, быць з гэтым людам. Для мяне гэта лагічны абавязак, а не якая рэч густу, сімпатыі». «Выдаў на свет мяне беларускі народ, — меўся ён запісаць у сваім тэстаменце, — і ўміраю як яго верны сын-беларус».

А мы тым часам, абышоўшы вакол турмы, вяртаемся па вуліцы Маркса зноў на стары Рынак...

# Ад Рынка на Віленскі гасцінец

*Няма Гародні старой! А тое, што засталося, — чужое дайно, савецкае; вырвалі месту язык, і не пад Божым сярпом лапоча яго калоссе! А серп самазванцаў тых, які панаваў дайно, ссекся, ступіўся таксама, іржавы, кінуты ў зломы...*
**Алесь Чобат**

Далей шлях наш ідзе ўздоўж Савецкай — адной з галоўных вуліц цэнтральнай часткі горада. Раней яна звязвала Рыначную плошчу з Віленскім гасцінцам і ажно да канца XVIII ст. заставалася ўласна гандлёвым шляхам. Менавіта Савецкая вуліца для большасці і атаясамліваецца са «старой Гародняй». І сапраўды, гісторыя гэтага месца настолькі багатая на розныя падзеі, што мы амаль адразу знаходзім тут прыкметы беларускасці нават там, дзе іх на першы погляд цяжка пабачыць...

Вось, напрыклад, **Савецкая, 7** — менавіта тут знаходзілася канспіратыўная кватэра, дзе спыняўся Кастусь Каліноўскі падчас падрыхтоўкі да паўстання.

Гэтак атрымалася, што амаль ці не галоўным абшарам беларускага грамадскага жыцця ў Гародні сталі мясцовыя гатэлі: у гатэлі «Швейцарыя» па вуліцы Ажэшкі знаходзілася рэдакцыя газеты «Беларускі шлях» і ў былым гатэлі «Пецярбургскі» па Калючынскай — канцылярыя Цэнтральнай беларускай рады Гарадзеншчыны; у гатэлі «Метраполь» адбывалася рэгістрацыя добраахвотнікаў у беларускі полк пры літоўскім войску, а ў рэстаране пры гатэлі «Раяль» праходзілі беларуска-польскія вечарыны. Нарэшце, у гатэлі «Гандлёвы» па сённяшняй Савецкай працавала бюро Беларускай вайсковай камісіі.


Вуліца Савецкая не для транспарту, а для мінакоў

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Былы гатэль «Расія».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Па іроніі лёсу ў гатэлі пад шматзначнай назвай «Расія», сёння гэта **Савецкая, 23**, у сакавіку 1919 года праходзілі чарговыя пасяджэнні ўрада БНР. Тут працавалі Беларускі нацыянальны камітэт, Грамада беларускай моладзі, курсы беларускай мовы, адбываліся беларускія вечарыны, працавала рэдакцыя газеты «Беларусь» і Цэнтральная беларуская рада Гарадзеншчыны, беларускі клуб «Наша хатка».

Гародні належыць гонар святкавання першых угодкаў абвяшчэння БНР вясной 1919 года. Падчас урачыстай вечарыны Антон Луцкевіч звярнуўся да беларусаў з заклікам не кідаць працы на нацыянальнай ніве да часу, пакуль Беларусь не стане незалежнай. «Сягодня, вітаючы адраджэнне нашай дарагой, змучанай другой няволяй бацькаўшчыны, —сказаў іншы з выступоўцаў, — б'еццa мае сэрца ад радасці. ...Мы не маем аружжа, ды што аружжа без духу, без нацыянальнай свядомасці — гэта цела без душы...»...

Аб гісторыі БНР можа нам распавесці і наступны адрас. Хаця вядомы кожнаму гарадзенцу ўнівермаг па вуліцы **Савецкай, 18** на першы погляд не мае нічога супольнага з беларускім нацыянальным рухам. Але не будзем спяшацца. Сапраўды, сам гандлёвы дом наўрад ці ўяўляе сабою гістарычную каштоўнасць. Аднак нас хутчэй цікавіць не ён, а той будынак, які раней стаяў якраз на гэтым месцы.

Менавіта тут, у гатэлі «Еўропа», ці «Еўрапейскі», на пачатку 1919 года спыніўся тагачасны прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў урада БНР Антон Луцкевіч. Назва гатэля як нельга лепш адпавядала той мэце, якая прывяла Антона Луцкевіча ў Гародню.

Нарэшце, па адрасе **Савецкая, 20** знаходзіцца будынак былога гатэля Лейбы Фэдэра, ён жа — гатэль «Камерцыйны» і «Гандлёвы», пазней, у савецкія часы, — рэстаран «Беласток». Менавіта тут восенню 1920 года спыніліся афіцэры з Беларускай вайсковай камісіі — А.Борык, А.Плескачэўскі, Я. Шурпа, Ю. Лявыкін, А. Якубецкі, Э. Якабіні і Ф. Умястоўскі. Магчыма, што тут жыў і сам Вячаслаў Адамовіч-малодшы, больш вядомы як Дзяргач — вайсковы атаман «Зялёнага дуба».

«Далёка, далёка ад мяне ты, мая дарагая... — пісаў ён, быццам бы развітваючыся з Радзімай. — ...І зноў малюся, жагнаючыся на вобраз распятага Бога. Пашлі ёй лепшую долю, дай шчасце зноў пабачыцца з ёю. Бо, бачыш, без яе — жыць не магу...»

# У цені «закона»

*Там, дзе народу няма, простаму ж люду «ўсё роўна», можа быць толькі зіма, толькі глухая зіма, толькі гнілая зіма — як у маленстве ў тым Гродне...*
**Алесь Чобат**

Прыгледзьцеся ўважліва да будынка былога акруговага суда (**Савецкая, 31**): на самым версе, над вокнамі, і зараз бачна слова «законъ». Гэта менавіта тут выносілі прысуд беларускім партызанам...

На жаль, сёння з героямі напружана. Можа, таму імёны беларусаў, якія не зламаліся, не здрадзілі ды не расчараваліся, яшчэ больш каштоўныя...

Вясной 1923 года ў Беластоцкім судзе пачаўся гэтак званы «працэс 45-і», на якім судзілі захопленых годам раней беларускіх партызан. Толькі сведкамі па справе праходзіла некалькі дзясяткаў чалавек! Першай сярод абвінавачаных суд выклікае... жанчыну! Маладую беларускую настаўніцу Веру Маслоўскую з Гародні абвінавачваюць у антыдзяржаўнай агітацыі і вярбоўцы ў беларускую партызанку.

Гарадзенскія беларускі — розныя, не падобныя на першы погляд: Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас), Станіслава Буйло, палітычныя дзеячы — Маслоўская, Аляксючанка, Мядзёлка, настаўніцы Сірафіма Кішко, Краўцавічанка, Кухарчук-Андрушэвіч, Надзея Ламашэвіч... Затое іх аб'ядноўвалі клопат пра будучыню беларускага народа, змаганне за ідэалы нацыянальнага Адраджэння, пакутлівы лёс быць першымі.

...Сама Маслоўская для Гародні чалавек не выпадковы. За ягe плячыма беларускія настаўніцкія курсы, служба ў Наркамаце асветы БССР, першыя літаратурныя спробы ды сяброўства ў партыі беларускіх эсэраў. Негатыўнага стаўлення да Польшчы ніколі не хавала. Паводле адной з газет, у свой час на сустрэчы амерыканскай харчовай місіі ў Гародні В. Маслоўская «прывяла ў лютасць прадстаўнікоў мясцовых польскіх прытулкаў, бо ў сваёй прамове не падзякавала за дапамогу польскай уладзе».

Разумеючы, што гэта, магчыма, яе апошняя публічная прамова, а можа менавіта таму, яна пачынае сваё выступленне па-беларуску, заяўляючы, што польскай мовай не валодае. Суд запрашае перакладчыка. Калі ж яе пытаюць, ці прызнае яна сябе вінаватай у барацьбе супраць Польшчы, падсудная з годнасцю заяўляе, што імкнулася «да ўтварэння Незалежнай Беларускай Рэспублікі ... каб злучыць у адно цэлае ўсе часткі разрэзанай Беларусі. Непасрэдна супраць Польшчы не змагалася, а таму ў гэтым вінаватай сябе лічыць не можа, бо гэта не злачынства, а абавязак кожнага патрыёта-грамадзяніна перад ягонай Бацькаўшчынай, ці будзе гэта беларус, паляк, ці хто-небудзь іншы».



Былы акруговы суд.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Адзін з агентаў польскага II аддзела, які прысутнічаў на працэсе над беларусамі, пазней адзначыў у сваёй справаздачы: «Вера Маслоўская паводзіла сябе выключна добра і з годнасцю. На пытанні заўсёды адказвала на выдатнай, чыстай, нават вытанчанай беларускай мове. Заўсёды ўсмешлівая, спакойная, бесклапотная, без ценю роблена штучнасці, яна здабыла сімпатыі і прыхільнасць не толькі ў публікі, але і суддзяў. Акрамя, вядома, пракурора. Бо той пастаянна выводзіўся ёю і адвакатамі з раўнавагі...».

Прысуд быў нечакана лагодны як на гэткія абвінавачванні. Ужо праз чатыры гады Вера Маслоўская была на волі.

А яшчэ праз два гады, ужо ў акруговым судзе ў Гародні, пачаўся «працэс 72-х», на якім таксама судзілі беларускіх партызан.

# Ад «Нэндзы» да «Раскошы»

*...Лезла вёска і лезла — і павылазіла.*
*Не хачу ўплятацца ў тутэйшы букет.*
*Тут заморскім гасцям лепяць honoris causa*
*і спяваюць, што маюць Універсітэт.*
***Алесь Чобат***

Адразу за былым судом пачынаецца вуліца Ажэшкі. Яшчэ ў Сярэднявеччы на гэтым месцы праходзіла дарога на Верцялішкі — радавое ўладанне гарадзенскага кашталяна Давыда Гарадзенскага. Нейкі час яна называлася вуліцай Раскошы (па назве карчмы, якая знаходзілася пры ўездзе ў горад). Прычым заканчвалася вуліца таксама карчмой, якая насіла назву — «Нэндза»...

Ужо ў першым жа будынку (**Ажэшкі, 1**), так званым палацы князёў Масальскіх, ці яшчэ інакш — доме купца Фрумкіна, беларуская прысутнасць набывае канкрэтныя абрысы. Улетку 1920 года ў гэтым будынку размясціліся розныя бальшавіцкія ўстановы. А сярод супрацоўнікаў новай улады былі і такія вядомыя беларускія дзеячы, як Аркадзь Смоліч і Сымон Рак-Міхайлоўскі...

Падчас кароткага перыяду існавання ў горадзе савецкай улады Рак-Міхайлоўскі працаваў школьным інструктарам аддзела народнай адукацыі і займаўся арганізацыяй школ у Гарадзенскім павеце. Жыў ён на адной кватэры з сям'ёй Смолічаў. Мясцілася яна, хутчэй за ўсё, менавіта ў былым доме Фрумкіна. Сам Аркадзь Смоліч уладкаваўся ў Гарадзенскі рэўкам кіраўніком агранамічнага пададдзела. Дарэчы, у гэты самы час ён працягваў працу над манаграфіяй «Геаграфія Беларусі».

Будынак па адрасе **Ажэшкі, 4** уяўляе сабою даволі рэдкі для Гародні прыклад канструктывізму. А яшчэ раней на гэтым месцы знаходзіўся гатэль «Швейцарыя». Менавіта ў адным з пакойчыкаў гэтага гатэля ў сярэдзіне 1928 года і размясцілася сядзіба гарадзенскага акруговага камітэта Таварыства беларускай школы. ТБШ мела штатнага інструктара, уласную бібліятэку і драматычны гурток. Таварыства зладзіла вечарыну памяці Максіма Багдановіча...



Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ідэолаг паныла паўтараў: «Наш дорогой Константин Михайлович Якубколос...».**



Дом-музей Элізы Ажэшкі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Гарадзенская самотніца Ажэшка

Прайшоўшы трохі далей па вуліцы, трапляем да бюста знакамітай польскай пісьменніцы працы Р.Зерыха. «Малодшая сястра Адама Міцкевіча», «гарадзенская самотніца», «стражнічка крэсаў» — гэта ўсё пра яе. Постаць Ажэшкі для Гародні цяжка пераацаніць. У доме па тагачаснай Садовай збіраліся ўсе тыя, хто імкнуўся да ўвасаблення шчырых нацыянальных ідэалаў, і не толькі польскіх. «...Некалькі тыдняў таму, — пісала яна ў адным з лістоў, — у мяне гасцяў ... пан Багушэвіч. Вельмі прыемна правяла з ім некалькі гадзін. Чытаў мне сваю беларускую паэзію. Нават перапісаў для мяне адзін верш, таксама па-беларуску. На самой справе, гэта вельмі ладныя рэчы; яны маюць нейкую сваю асаблівую прывабнасць, і мне вельмі цікава зразумець іх і пасмакаваць...»

Але — у каторы раз! — гісторыя дэманструе сваё асаблівае пачуццё гумару. Сёння помнік гарачай польскай патрыёткі апынуўся якраз на тым самым месцы, дзе вядомы журналіст і пісьменнік Л. Саланевіч выдаваў «Северо-Западную жизнь» — орган расейскіх манархістаў.

Наступны прыпынак — каля моста праз Гараднічанку, дзе ў сярэдзіне красавіка 1919 года атрад Польскай арганізацыі вайсковай ажыццявіў напад, каб вызваліць Казіміра Цвірку-Гадыцкага — былога выкладчыка Слуцкай гімназіі і сябра камісіі БНР па арганізацыі Беларускага ўніверсітэта. Цвірка-Гадыцкі быў арыштаваны па загадзе ўрада БНР за тое, што завёз у Варшаву ліст, у якім ад імя прыдуманага Усебеларускага з'езда абвясціў аб уваходжанні Беларусі ў склад Польшчы.

## Універсітэт з «чуждымі элементамі»

Адразу насупраць дома Ажэшкі ўзвышаецца галоўны, ці, як яго яшчэ называюць, «стары» корпус Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, што носіць імя Янкі Купалы. Перад будынкам у 1964 годзе быў пастаўлены бюст самога паэта працы скульптара З. Азгура.

Яшчэ з савецкіх часоў органы дзяржбяспекі былі ўпэўненыя, што ўніверсітэт, а тады яшчэ педінстытут, засмечаны «чуждымі элементамі». Найбольш прыкметнай «беларускай» справай стаў арышт у сярэдзіне 1950-х выкладчыка Барыса Ржэўскага, які напісаў ліст да партыйных уладаў у абарону беларускасці. «У Гародні на бясконцых допытах, — узгадваў пазней Янка Брыль, — яго не білі, нават і не надта лаялі. Следчы ... слухаючы беларускія тлумачэнні педагога, толькі зверху пасміхаўся: «И кому это нужно?.. Ком-му эт-то нуж-но?..».

Цкаванне педагога пачалося з таго, што Ржэўскі прачытаў свой ліст, адрасаваны партыйным уладам у абарону беларускасці, аднаму з сяброў. А прачытаўшы, «схаваў яго туды, адкуль дастаў — пад мармуровы цяжкі пісьмовы прыбор на сваім рабочым стале». У тым лісце пісалася, што «нават на шматлюдным пахаванні Якуба Коласа галоўны ідэолаг БССР … афіцыйны жаль агучваў з урадавай трыбуны па паперцы ды па-руску, паныла паўтараючы: «Наш дорогой Константин Михайлович Якубколос...». «Калі гэбісты прыйшлі першы раз, — піша Янка Брыль, — яны не сталі нічога шукаць-расшукваць, адразу сеганулі да стала, паднялі той пісьмовы прыбор...» «...Толькі Барыса забралі, на кватэру прыйшлі з ператрусам ... з шуфляды яго стала дасталіся пісьмы, ды многа іх, а ў адным пісьме аказаўся і мой фотаздымак, на якім я ў вясёлым рогаце. І ператрусчыкі, калі адзін з іх уголас зачытаў надпіс на абароце здымка, амаль зусім палюдску засмяяліся». З нагоды нейкай літаратурнай прэміі там было напісана: «Прими от морды, вкусившей славы».

Нездарма тая ж Ларыса Геніюш, якая прызнавалася ў любові да нашага горада, пісала: «У Гародні ... закрываюць у цэлых класах беларускую мову, нават тых пару гадзінаў, што давалі. Няма там ніводнай беларускай школы! Гароднія — як прорва, чужая, чорная яма, дзе ліквідуецца ўсё беларускае...»

## Беларуская школа

Мы ж паспрабуем адшукаць адрасы, па якіх у міжваенныя часы знаходзілася ў Гародні беларуская школа, хоць справа гэта даволі няпростая. Найперш гэта Барысаглебскі манастыр: на месцы сучаснага драматычнага тэатра з 1916 года дзейнічалі беларуская пачатковая, а трохі пазней беларуская прытулкавая школкі. Тут жа восенню 1920 года адчынілася Гарадзенская беларуская гімназія, якая пасля перанеслася ў былы архірэйскі дом (цяпер гэта каменіца па **Горкага, 2**). Зусім нядоўга, менш за паўгода, праіснавала беларуская школа ў будынку былога Пушкінскага вучылішча (сучасны педагагічны каледж па вуліцы Леніна), адкуль яна была вымушана перабрацца на вуліцу Палявую (цяпер **Карбышава, 10**), а адтуль — у былую Марыінскую гімназію. Наступны будынак, які займала беларуская школка з 1921 прыблізна па 1925 год, – **Сапёрная, 6** (сучасная плошча Тызенгаўза), насупраць старога тэатра.

«Школа, — чытаем мы ў «Інструкцыі аб адчыненні беларускіх школ на Гарадзеншчыне…», – абслугоўвае сама сябе: падмятаюць і мыюць падлогу, праціраюць шкло і рамы, паляць печы, абчышчаюць снег і г.д. — самі вучні разам з настаўнікамі (водлуг прыншпаў працоўнай школы). Бацькі ж вучняў памагаюць у забеспячэнні школы патрэбнымі мэблямі. Падручнікі выдае вучням настаўнік з сваіх запасаў, калі мае. Калі кніг бракуе на ўсіх, дык выдае бяднейшым.

Калі ж кніг няма ў настаўніка, дык ён дастае іх ад Школьнай рады за кошт вучняў. Так сама сшыткі, пёры, алоўкі і інш. купляюцца ім жа на кошт вучняў. Навука вядзецца па праграмах, зложаных і надрукаваных Цэнтральнай беларускай школьнай радай у Мінску, прычым, акрамя прадметаў агульнай веды абавязковых у беларускай пачатковай школе, трэба звяртаць значную ўвагу на фізічнае выхаванне дзяцей, на беларускія спевы, гульні. У школе ўжываюцца беларускія падручнікі, друкаваныя кірыліцай. У залежнасці ад мясцовасці, пачынаюцца на трэцім годзе навукі знаёмства з лацінскім шрыфтам і чытанне кніг, друкаваных лацінкаю…».

Апошні прытулак аж да свайго закрыцця ў 1927 годзе школа знайшла па вуліцы Паўночнай. Цяпер у гэтым будынку па адрасе **Валковіча, 1** — філіял сАграрнага ўніверсітэта.

Вось тут, побач з кнігарняй, і прыпынімся на хвілінку.

# Уздоўж чыгункі

*На вуліцы Леніна ў Гродне Ленін
не жыў ні дня,
і ні дня не жыла тут ленінская
радня.
Але на вуліцы Леніна ленінцаў
шмат жыве.
Ленінцы — гэта ў кага ўсё
правільна ў галаве.*
***Алесь Чобат***

На гэты раз у якасці напрамку нашага шпацыру мы выбралі чыгунку, уздоўж якой і выправімся па вуліцах Будзённага, Леніна ды Антонава ў накірунку да старых муніцыпальных могілак. У адрозненне ад цэнтра, вуліцы гэтыя значна маладзейшыя, але ў кожнай з іх ёсць сваё аблічча.

Як і кожны сярэднявечны горад, Гародня таксама бярэ свой пачатак ад гарадскіх брамаў. Праўда, сёння іх замяняе чыгуначны вакзал, які адчыняе шлях у горад. Калісьці ён стаў сапраўднай брамай, праз якую ў новае жыццё ўвайшло шмат людзей. Перш за ўсё гэта былі прадстаўнікі сённяшняга старэйшага пакалення, якія прыехалі яшчэ юнакамі ў Гародню ў пошуках «новай долі».

### Быкаў і Гародня

Той жа Васіль Быкаў пісаў, што сваю «першую гарадзенскую ноч правёў на вакзале». «...Якраз на дзень Перамогі цягніком праз Баранавічы паехаў у Гародню, горад, дзе ў мяне не было аніводнай знаёмай душы», — узгадваў пісьменнік. Пазней яму прыйшлося правесці ў Гародні «тры доўгія бескватэрныя гады, перажыўшы не адну кватэрную драму».

У 1956 годзе ён пераехаў на вуліцу Падгорную, «паблізу ад Нёмана», як сам пазней узгадваў. Адсюль і бярэ пачатак ягоная творчасць: «У кватэры было малаўтульна і сцюдзёна, па ваду трэба было хадзіць праз тры двары. Але я ўвесь дзень быў вольны і пачаў пісаць». Пазней сям'я Быкава змяніла некалькі адрасоў. Па вуліцы Алега Кашавога (цяпер **Вялікая Траецкая, 28-20**) яны жылі на першым паверсе, у невялікай кватэры, усяго 40 квадратных метраў, да таго ж падзеленай на тры пакойчыкі. Акно быкаўскага кабінета выходзіла якраз на гаманкую гарадскую вуліцу. Другі адрас — **Свярдлова, 18—30**. Вузкая вулачка Маладзёжная ад Брыгіцкага касцёла выходзіць наўпрост на новы дом Васіля Быкава. Апошняй гарадзенскай кватэрай, з якой Васіль Быкаў з'ехаў у Мінск, стаў чатырохпакаёўка ў доме для партыйных босаў па вуліцы **Парыжскай камуны, 9—11** (за значнасць пасадаў, якія займалі ягоныя насельнікі, у народзе гэты дом празвалі «Ластаўчына гняздо» ).

### Месца сустрэчы

Аднак вернемся да будынка чыгуначнага вакзала. Пастаўлены ўсяго толькі год дваццаць таму, ён замяніў сабою адзін са старэйшых вакзалаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У тых старых мурах таксама было месца для беларускасці. Тут, напрыклад, восенню 1919 года Паўліна Мядзёлка чакала цягнік з Антонам Луцкевічам, каб перадаць яму просьбу аб звальненні з турмы Тамаша Грыба. Аляксей Карпюк меў на чыгуначным вакзале свой працоўны офіс, маленькую каморку на першым паверсе. «Звычайна Аляксей сядзеў за друкаркай, — узгадваў В.Быкаў, — чарговы раз перадрукоўваў свае аповесці, на размову ў яго заўжды не хапала часу».


Самы «беларускі» з адрасоў сённяшняй Гародні — гэта Будзённага, 48а
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сёння фасад вакзала ўпрыгожвае памятны знак у гонар удзельнікаў паўстання 1863 года. І ў гэтым таксама прыкмета сучаснай Гародні. У шмат якіх месцах Беларусі няма падобных помнікаў. А ў Гародні ёсць.

### Новы цэнтр беларускасці

Як калісьці прытулкам беларускасці ў горадзе быў Барысаглебскі манастыр, так сёння «самы» беларускі з адрасоў у Гародні — гэта **Будзённага, 48а**. У мурах былых табачных складоў Акцыянернага таварыства Шарашэўскіх, пабудаваных яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя, цяпер як нідзе больш можна пачуць беларускую гутарку. Падаецца, што зусім нядаўна тут, у сядзібе «Ратушы», вас сустракаў кіраўнік ТБШ Валеры Задаля, які падрыхтаваў вечарыну з нагоды чарговага беларускага свята. На жаль, яго ўжо няма сярод нас...

Пройдзем адзін прыпынак і спынімся ля былога Пушкінскага вучылішча (**Леніна, 4**). Вонкава яго фасад амаль не змяніўся, калі не лічыць прыбудовы педагагічнага каледжа, якая схавалася за рагом. Трэба толькі прайсці некалькі крокаў углыб сквера паміж вуліцамі Леніна і Будзённага і, гледзячы з гэткай перспектывы, уявіць сабе, што над старым уваходам, цяпер зачыненым, лунае літоўскі трыкалор: жоўты, зялёны, чырвоны, а пад ім на сцяне вісіць герб «Пагоня». Побач шыльда панямецку: «Litanische Regierung Ministerium für Weissruthenische Angelegenheiten Grodno», што ў прыблізным перакладзе гучыць як «Міністэрства беларускіх спраў пры літоўскім урадзе ў Гародні». Раптам дзверы адчыняюцца, і выходзіць малады чалавек, на выгляд год дваццаці сямі, апрануты ў касцюм вайсковага крою, але элегантна і з густам. На ягоным твары нейкі дзіўны выраз, быццам ён спіць на хаду, бо вочы прыжмураны. Гэта і ёсць пан міністр, а ў нядаўнім мінулым — кіраўнік першага ўрада БНР Язэп Варонка, а цяпер кіраўнік Міністэрства беларускіх спраў пры літоўскім урадзе...

Ужо пазней у будынку вучылішча размясцілася беларуская школа на чале з дырэктарам Янкам Антонавым. З гэтым месцам звязаны і Лукаш Дзекуць-Малей — адзін з першых пратэстанцкіх святароў, што далучыліся да нацыянальнай справы. Ён з'яўляўся сябрам камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, клуба «Беларуская хатка», быў адным з ініцыятараў стварэння Грамады беларускай моладзі і нават выступаў на сцэне мясцовага тэатра ў якасці самадзейнага акцёра!..

Аднак пачакайце. Нам трэба зараз завярнуць, каб цераз мост патрапіць на той бок чыгункі, на вуліцу Антонава.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Гарадзенскі мартыралог

*Маці Марыя на гродзенскіх
могілках спіць.
Камень паставіў па ёй Панцялееў
Валодзя.
Надпіс і крыж. І ніякае медзі — і
годзе.
Маці душа і без медзі на Небе
звініць...*
***Алесь Чобат***

Ёсць у Гародні вуліца Іерусалімская, якая вядзе проста да старых могілак, а ёсць вуліца Антонава — да рэдакцыі «Гарадзенскай праўды» і гарадскога рынка. І хаця гэта адна і тая ж вуліца, большасць з гарадзенцаў спяшаюцца па Антонава з тым, каб рана ці позна выйсці на свой шпацыр па Іерусалімскай...

Былі ў гэтай вуліцы і іншыя назвы — Новая, Навадзеляна над акопам, Lange Reich і нават... Танкістаў. Антонава — гэта апошняя з пяці вуліц, закладзеных на каралеўскіх грунтах на ўсходняй мяжы Гародні. Каля 1783 года сюды былі перасялены 15 сем'яў з ваколіц Старога замка з нагоды будоўлі каралеўскай стайні. Паступова вуліца ператвараецца ў магістраль да першых гарадскіх могілак і вайсковых крамаў.

Менавіта тут, у доме па адрасе **Антонава, 15**, жыў Мікалай Якімовіч — адзін з найбольш прыкметных беларускіх дзеячаў таго часу.

Сам Якімовіч скончыў мясцовую вышэйшую пачатковую школу. Пазней, калі быў разам з бацькамі ў бежанстве, давучваўся ў Разанскай гімназіяльнай школе. Ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны. На Радзіму ён вярнаецца ўжо сябрам РКП(б) і супрацоўнікам ЧК для канспіратыўнай працы. Вельмі хутка ён заваёўвае агульныя сімпатыі і аўтарытэт сярод мясцовых беларусаў, асабліва той леварадыкальнай часткі, якая са спадзяваннем глядзела на Савецкую Беларусь, чакаючы хуткага вызвалення. Якімовіч заўсёды выбіраў найбольш актыўных, калі не сказаць, баявых, арганізацыі. Быў сябрам БПС-Р, пазней — КПЗБ, з'яўляўся кіраўніком Гарадзенскага павятовага сакратарыята Беларускага пасольскага клуба.

Аднак найбольш напружаны і актыўны перыяд ягонай дзейнасці прыходзіцца на час паўставання Беларускай сялянска-работніцкай грамады, калі Якімовіч узначаліў яе Гарадзенскі павятовы сакратарыят. На яго кватэры адбываліся сустрэчы беларускіх паслоў — Б.Тарашкевіча, П.Валошына, С.Рак-Міхайлоўскага — і мясцовых беларускіх дзеячаў. У 1928 годзе ў Вільні на працэсе па так званай «справе 56-і» над кіраўнікамі БСРГ ён быў асуджаны на шэсць год цяжкіх турэмных працаў. Падчас самога працэсу адбыўся вельмі характэрны выпадак. На запытанне, адкуль ён паходзіць, М.Якімовіч адказаў: «Я з Гародні». «З Гродна», — паспрабаваў яго паправіць старшыня суда. «З Гародні», — настойваў падсудны. Давялося старшыні пагадзіцца, што па-беларуску Гродна гучыць як Гародня.

Якімовіч быў вызвалены з турмы ўсяго толькі за чатыры дні да смерці. Паводле ўспамінаў яго брата, адразу пасля вяртання з вязніцы ён быў паўторна арыштаваны. «Але паколькі той быў хворы, — узгадваў пазней яго брат, — дык польская дэфензіва адаслала яго ў шпіталь. Па ўказцы польскай дэфензівы і спасылаючыся на неабходнасць аперацыі, Якімовіча пазбавілі жыцця — зарэзалі, толькі каб пазбавіцца ад непатрэбнага і небяспечнага элемента». На ягоным пахаванні на гарадскіх могілках прысутнічала каля 200 чалавек. Паводле данясення польскай паліцыі, праваслаўны протадыякан і псаломшчык, пачуўшы рэвалюцыйныя песні, што спявалі прысутныя, дэманстратыўна сышлі з могілак...

Дарэчы, могілкі (гэта побач з рынкам) з'яўляюцца яшчэ адной адметнасцю сённяшняй вуліцы Антонава. Іх тут адразу некалькі — Каталіцкія (былыя Фарныя), Праваслаўныя (іх яшчэ называюць «Рускія» і «Сафійскія»), а таксама Вайсковыя. На Фарных могілках сярод іншых пахаваныя Эліза Ажэшка ды айцец Ф. Грынкевіч. На Праваслаўных могілках знайшла свой прытулак Марыя Багдановіч (Мякота) — маці паэта.


БАЦЬКАЎШЧЫНА
Беларускі Соціялістычны Тыднёвік
13 сакавіка памёр ведомы беларускі дзеяч
А. ГРЫКОЎСКІ,

Газета «Бацькаўшчына» з некралогам памяці Грыкоўскага.

На Старых могілках усяго тры беларускамоўныя магілы. Апрача легендарнага ў міжваенныя гады і істотна паламанага савецкай рэчаіснасцю Міхася Васілька і матулі Максіма Багдановіча, пад беларускамоўным надмагіллем ляжыць яшчэ аднаго паэта Міхася Багуна — вядомага ў даваеннай БССР маладога лірыка. Ён памёр у перасыльнай турме ў Сібіры ў пачатку 1938 года. Брат Багуна зрабіў у Гародні сімвалічнае надмагілле свайго брата з фотаздымкам і радкамі з аднаго з яго вершаў.

# Шляхам да Гарадніцы

*Прыедуць хлопцы*
*з дальніх вёсак —*
*хто па навуку, хто па долю.*
*Ў Гародні запалае восень,*
*і ўжо не скончыцца ніколі...*
***Алесь Чобат***




Насамрэч стары **Скідальскі рынак** знаходзіўся раней не ў канцы, а ў самым пачатку вуліцы Антонава — там, дзе зараз пабудаваны аўтавакзал, і толькі ў 1976 годзе рынак перанеслі на новае месца. Аб гэтым рынку варта ўзгадаць хаця б таму, што гэта менавіта тут у Гародні савецкіх часоў сустракаліся беларуская вёска і ўласна горад, які паспеў у чарговы раз змяніць свае звычкі разам з новаю ўладай.

«...Смешна, — пісала ў адным з лістоў да сваіх знаёмых Ларыса Геніюш, — я хіба ў Гародні хадзіла б на Скідальскі рынак штодня, каб бачыць там нашых людзей і чуць беларускую мову... Іначай у Гародні яе не чутно, і размаляваныя прадаўшчыцы «не чуюць», калі звяртацца да іх на мове народу, які засяляе гэтыя землі...»

З гэтым месцам было звязана імя Міхала Валовіча — патрыёта, які паклаў сваё жыццё на алтар Радзімы. У 1833 годзе за ўдзел у паўстанні ён быў пакараны смерцю, а само пакаранне адбылося якраз за Скідальскай заставаю.

Але вось мы перайшлі зноў на той бок чыгункі і зараз шпацыруем былым Пясочным завулкам, што сёння носіць імя генерала Паўлоўскага. З месцаў, звязаных з гісторыяй беларускага руху, тут можна ўзгадаць толькі адзіны адрас — **Паўлоўскага, 15**. Менавіта ў гэтым доме, дзе ў свой час працаваў перавалачны пункт яўрэйскай эміграцыі ў Палестыну і ЗША, на пачатку 1919 года жыў прысланы літоўскім камандаваннем капітан-кулямётчык Б.Гедройць. Ён вучыў салдат з мясцовага беларускага палка майстэрству стральбы з танкавага кулямёта сістэмы «Schwarzlose».



Тамаш Грыб і Паўліна Мядзёлка.

З вуліцы Паўлоўскага трапляем на вуліцу Васілька. Яшчэ ў XVII стагоддзі тут знаходзіліся гарадскія выганы і тылы фартыфікацый «пятроўскіх часоў». За сваю гісторыю яна была Пясочнай, Рыдза-Сміглага, затым — Чапаева. Гэта менавіта на вуліцы Пясочнай яшчэ ў 1902 годзе Яніна Міхноўская напісала першыя агітацыйныя брашуры на беларускай мове, якія былі неўзабаве выдадзены ў Лондане. Праўда, усяго праз два гады друкарня на кватэры Міхноўскай была знішчана паліцыяй, аднак з яе бярэ пачатак гісторыя беларускага друку ў Гародні.

З друкам і ўласна беларускай літаратурай звязана жыццё чалавека, імя якога сёння носіць гэта вуліца. Аднапавярховы драўляны дом Міхася Васілька стаяў унізе, **на рагу сучасных Васілька і Карбышава**. Згодна з афіцыйным заключэннем, будынак гэты «з'еў грыбок», у сувязі з чым ён і быў разабраны.

На вуліцы Карбышава таксама ёсць на што паглядзець і аб чым узгадаць. Тут месціўся шэраг каштоўных камяніц — ажно два банкі (адзін з царскіх, другі з польскіх часоў), будынак рэстарана «Беласток», гарадзенская тэлефонна-тэлеграфная станцыя і былая ўласнасць павятовага лекара — дом Тальгейма.

Але звернем нашу ўвагу на будынак, які знаходзіцца ўбаку ад астатніх камяніц, быццам бы на нейкай выспе. Сёння там (па адрасе **Карбышава, 10**) працуе мастацкая школа. А трохі менш за сто год таму тут знаходзілася Грамада беларускай моладзі. Аднак гэты дом яшчэ і гісторыя аднаго кахання, аб якім варта ўзгадаць. Менавіта ў сценах камяніцы па Палявой успыхнула пачуццё, што звязала паміж сабою дзвюх прыкметных асобаў — Тамаша Грыба і Паўліну Мядзёлку. Праўда, была яшчэ адна асоба — Бадунова, што ўспрыняла гэтае каханне як уласную трагедыю. Прайшоў час. Загінула ў савецкай вязніцы Бадунова, памёр на чужыне Грыб, і толькі Паўліна Мядзёлка дачакалася такога-сякога прызнання ў савецкай улады, нават выдала кніжку ўспамінаў. Вось толькі на старонках гэтай кніжкі яна прынесла ў ахвяру свае ўласныя пачуцці, апісаўшы свайго былога мужа ў непрывабных фарбах, хаця ў сэрцы трымала зусім іншы вобраз...

І зноў не можам не заўважыць іроніі лёсу. Вось яна — былая сядзіба Грамады беларускай моладзі — увасабленне самага лепшага, самага ахвярнага, што было ў беларускім руху, а літаральна насупраць, па адрасе **Карбышава, 7**, улетку 1926 года пасяліўся чалавек, які ўвайшоў у гісторыю беларускага руху як правакатар і здраднік...

Міхаіл Ханевіч больш вядомы пад сваёй партыйнай мянушкай Гурын-Маразоўскі. Гэта менавіта ён з'яўляўся адным з кіраўнікоў гэтак званай сецэсіі ў КПЗБ. У Гародні Гурын-Маразоўскі планаваў стварыць новую беларускую партыю — Бюро сацыялістычнага саюза. Аднак калі вяртаўся ўвечары дахаты, быў цяжка паранены. З васьмі куляў адна трапіла яму ў нагу, а другая — у плячо. Польская паліцыя палічыла, што «замах быў арганізаваны на палітычнай глебе». У гэты раз ён выратаваўся, але ўсяго праз два гады быў забіты па загадзе камуністычнай партыі як правакатар. Гэтак ён і ўвайшоў у гісторыю. І ніхто зараз не ўзгадае, што найперш гэта быў чалавек, які таксама шчыра любіў сваю Радзіму...






Дом на скрыжаванні Карбышава і Васілька, дзе жыў Міхась Васілёк, знесены ў 1960-я.

Збочваем з Карбышава на Сацыялістычную і, прайшоўшы літаральна пару крокаў, падыходзім да самага старога ў Гародні кінатэатра «Чырвоная зорка». Гэта тут у канцы красавіка 1922 года прайшоў Беларускі з'езд прадстаўнікоў ад вёсак Гарадзенскага павета. Паводле справаздачы, на ім прысутнічала больш за паўтары сотні чалавек, а самім з'ездам кіравалі Яўген Міткевіч і Янка Шурпа. Абодва гэтыя дзеячы трапілі ў гісторыю як дэклараваныя паланафілы і палітычныя авантурысты. Янка Шурпа паходзіў з-пад Гародні і прайшоў шлях ад беларускага настаўніка да вярбовачнага афіцэра Беларускай вайсковай камісіі. Ужо пазней ён стаў адным са стваральнікаў нацыянальнай радыкальнай партыі «Еднасць» і больш праславіўся сваімі сувязямі з дэфензіваю.

На гэткі выпадак у палітычным лексіконе быў прыдуманы тэрмін «казённыя беларусы»...



Грамада беларускай моладзі ў Горадні.

# Гарадніца

*Места Гароднія застаецца вялікай сцэнай тэатра абсурду.*
*Медны Ленін блішчыць — як вылізаны.*
*Споўніўся польскі праклён пары міжваеннай:*
*«Каб цябе немцы акупавалі, а саветы вызвалілі!»*
***Алесь Чобат***


Сяргей Гудзілін

З Сацыялістычнай трапляем проста на **плошчу Тызенгаўза** — адміністрацыйны і культурны цэнтр Гарадніцы...

Гароднія нашых дзён. У старым парку, у самым цэнтры Гарадніцы, амаль што на падмурках былога палаца Тызенгаўза, сабралася трыста-чатырыста чалавек пад забароненымі нацыянальнымі сцягамі. Шлях у цэнтр горада на плошчу перакрыты кардонамі міліцыі, праз які святочнай калоне, у асноўным мясцовай беларускай інтэлігенцыі ў другім-трэцім пакаленні, не прабіцца. Час ідзе і трэба выбіраць, у які бок рухацца далей. Улады падганяюць, загадваюць ісці да Каложы, на пустку. І ў гэты момант пачынаеш разумець, наколькі нам, сучасным гарадзенцам, не хапае ведання ўласных традыцый беларускага руху. Вось жа ён — былы архірэйскі дом, і шлях да яго вольны. Перад ім якраз хопіць месца, каб сабрацца ўсім. Дзе, калі не тут, павінна адзначацца свята Незалежнасці?..

Чырвоны трохпавярховы будынак побач з плошчай па адрасе **Горкага, 2/2** увайшоў у гісторыю пад шмат якімі абліччамі — палац віцэ-адміністратара, «кватэра паўнамоцнага пасла расійскага», дом Дзяконскага, палац Валіцкага, архірэйскі дом, корпус медуніверсітэта. У Сярэднявеччы на гэтым месцы, побач са старажытным Віленскім трактам, месцілася царква Святога Мікалая. На жаль, у сярэдзіне XVIII ст. ад царквы засталіся толькі крыж ды могілкі. Сам палац быў спраектаваны І.Мёзерам як частка комплексу Гарадніцы і будаваўся каля дваццаці год. Менавіта тут, пры сядзібе праваслаўнага епіскапа Уладзіміра, у пачатку 1919 года знаходзілася кватэра беларускай камендатуры і частка эскадрона Першага беларускага гарадзенскага палка, дзейнасць якога можна аднесці да адной з найбольш супярэчлівых старонак гісторыі беларускага руху ў Гародні.


**Мікола Дзямідаў.**



**Афіцэры беларускага палка пазіруюць на балконе архіерэйскага палаца. Красавік 1919 года.**

Свой пачатак Першы беларускі гарадзенскі полк бярэ ў снежні 1918 года, калі ў Вільні было вырашана стварыць беларускія часткі ў складзе літоўскага войска. Першапачаткова літоўскім урадам планавалася арганізаваць адну беларускую брыгаду агульнай колькасцю 8—10 тысяч салдат. Тым часам да Вільні набліжаліся бальшавікі, і фарміраванне беларускага палка перанеслі ў Гародню.

Для ўтрымання палка не было ні сродкаў, ні мундзіраў, ні памяшканняў. Першыя дні штаб палка знаходзіўся ў гатэлі, а большая частка салдат жыла на кватэрах. Беларускія часткі ў Гародні размяшчаліся ў Крывой афіцыне пры Аляксандраўскім пляцы, у Сапёрных казармах (цяпер вайсковы шпіталь), адзін батальён знаходзіўся на Жандарскім завулку, а конны эскадрон М.Глінскага — у канюшнях С.Якавюка. Страявыя заняткі праводзіліся на плошчы Аляксандра Неўскага (сучаснай Тызенгаўза). Прадукты, абмундзіраванне, зброя закупаліся праз нямецкага каменданта горада. Грошы на ўтрыманне палка выдаткоўваліся літоўскім урадам, а таксама выдзяляліся з


Сяргей Гудзілін

падаткаў, атрыманых ад мясцовага насельніцтва.

Беларускасць у палку культывалася дзякуючы Кастусю Езавітаву і Міколу Дзямідаву. Менавіта Дзямідаў, які, безумоўна, меў арганізатарскі талент, стварае асобны батальён, эскадрон гусараў, жандармерыю, чыгуначную, паштовую і тэлеграфныя службы. Своеасаблівая «беларусізацыя» палка пачынаецца з сярэдзіны сакавіка 1919 года разам з прызначэннем Езавітава яго новым камандуючым. 27 сакавіка полк афіцыйна атрымаў назву Першага беларускага гарадзенскага палка пяхоты. У пачатку красавіка 1919 года, калі распачынаецца эвакуацыя нямецкіх войск з Гародні, беларускія часткі ў горадзе налічвалі каля 500 чалавек.

Польскае Галоўнае камандаванне ўважліва сачыла за фарміраваннем беларускіх частак, асцерагаючыся, каб Гароднія не ператварылася ў другі Львоў, вакол якога ўжо некалькі месяцаў ішлі зацятыя польска-ўкраінскія баі, якія канчаткова сапсавалі рэнамэ Польшчы на міжнароднай арэне. Скарыстаўшыся момантам, калі Езавітаў разам з літоўскай дэлегацыяй ад'ехаў на перамовы ў Варшаву, упаўнаважаны польскага Генеральнага штаба ў Гародні палкоўнік Нямірскі прапанаваў часоваму камандзіру палка Успенскаму заключыць пагадненне, каб беларускі полк не супраціўляўся ўваходу ў Гародню польскага войска. Той згадзіўся, аднак у адказ запатрабаваў ад палякаў прызнаць прыналежнасць палка да літоўскага ўрада і не ўмешвацца ў яго ўнутранае жыццё.

24 красавіка ў горад вяртаецца Езавітаў, які катэгарычна выступіў супраць пагаднення з палякамі і загадаў тэрмінова эвакуіраваць беларускія часткі з Гародні, аднак з Коўна прыйшоў загад з пацвярджэннем папярэдняй умовы, згодна з якой полк заставаўся ў горадзе і пераходзіў пад часковае польскае камандаванне. Езавітаў заставалася толькі прачытаць гэты загад у прысутнасці ўсіх афіцэраў палка, пасля чаго, перадаўшы камандаванне палкоўніку Антонаву, ён ад'ехаў у Коўна.

**Сёння падаецца амаль немагчымым, каб аднойчы ў Гародні з'явілася вуліца імя Канстанціна Езавітава. Ці інакш — спярша нацыяналіст, а ўжо канчаткова — калабарант. І ўсё ж такі, гэта гучыць: Вам куды? — На вуліцу Езавітава!**

Напярэдадні канчатковай эвакуацыі немцаў, уначы з 26 на 27 красавіка, штурмавы атрад Польскай арганізацыі вайсковай раззброіў эскадрон беларускіх гусараў. Салдат эскадрона пад вартай палякі адвялі вакольным шляхам у маёнтак Станіслававa, дзе забарыкадзіраваліся ў палацы, выставіўшы перад брамай захопленыя ў беларусаў кулямёт. 28 красавіка ў Гародню ўвайшлі польскія рэгулярныя часткі. На наступны дзень беларускі полк перайшоў у падначаленне польскаму камандаванню Гарадзенскай крэпасці.

Лёс Першага беларускага гарадзенскага палка і ў значнай ступені ўсяго беларускага руху ў Гародні вырашыўся летам 1919 года. Роўна праз месяц пасля прыходу палякаў беларускі полк зменшыўся амаль на палову і налічваў усяго 37 афіцэраў і каля 200 салдат. 1 чэрвеня польская рота была вышыхтавана насупраць штаба беларускага палка. З будынка беларускай камендатуры былі зняты беларускія і літоўскія штандары і шыльда з «Пагоняй», а афіцэры беларускага палка абавязаны былі здаць зброю каменданту крэпасці пад распіску. Яшчэ праз два тыдні жаўнеры-каталікі былі выдзелены асобна і адведзены ў польскія казармы, а ўсе астатнія атрымалі пасведчанне аб дэмабілізацыі. Афіцэры часова заставаліся ў рэзерве крэпасці з забаронай выязджаць з Гародні...

На гэтым Першы беларускі гарадзенскі полк перастаў існаваць.

# «Новы свет» і яго наваколле

*Ад вуліцы Каліноўскага —*
*чыстага бору струна.*
*Снуецца з Нёмана горад,*
*як ніткі з верацяна.*
***Данута Бічэль-Загнетава.***
***Вандроўка па Гародні***
***з Уладзімірам Караткевічам***
***вясной 1965 г.***

У назве аднаго з кварталаў старой Гародні — «Новы Свет» — увасобілася многае. Гэта і звычайнае імкненне чалавека да шчасця, і трошкі наіўная вера ў тое, што мінулае магчыма выправіць, перапісаць нанава, каб пачаць з чыстага аркуша. І, вядома ж, іронія: вось ён які, наш «Новы свет», што можа змясціцца ў некалькіх вуліцах і завулках. Сёння «Новы свет» — гэта тэрыторыя паміж вуліцамі Станіславоўскай і старой часткай Горкага.

Гэта ў «Новым Свеце», на ўскрайку галоўных турыстычных маршрутаў, у драўляным доме на рагу вуліцы Першамайскай прытуліўся музейчык Максіма Багдановіча. Сям'я Багдановічаў пражыла ў горадзе зусім нядоўга: толькі чатыры гады — з 1892 па 1896. За гэты час яны змянілі некалькі адрасоў: жылі ў доме Марушэўскага, Шміта. Здымалі яны пакоі і ў доме Агульніка ў «Новым Свеце». Зараз ужо няварта казаць, той гэта дом ці не, бо галоўнае — гэта сам музей і ўласна сама спадчына Паэта.

Зусім побач — мемарыяльная дошка ў гонар Рыгора Шырмы. Час ад часу да гэтай мемарыяльнай дошкі нехта прыносіць кветкі. Чаго яшчэ можна жадаць? Аднак постаць Рыгора Раманавіча — гэта яшчэ і прыклад таго, як праўдзівая беларушчынаператваралася ва ўмовах псеўдабеларускай савецкай дзяржаўнасці ў безаблічную дэкарацыю. Усё, што было вартага ў жыцці гэтага чалавека: ягоная палітычная ды культурна-асветніцкая дзейнасць, гарачая прапаганда беларускай культуры, самаахвярная праца на карысць беларускай асветы — усё гэта было зведзена да ўзроўню фальклорных спеваў у «савецкім Гродне».

У Гародні Рыгора Шырму «апякалі» прадстаўнікі органаў бяспекі, прасунуўшы яму ў кіраўнікі «свайго чалавека». Хутка Шырма з'ехаў з Гародні ў Менск, дзе заняў месца ў пантэоне афіцыйных класікаў. Гэтага аказалася дастаткова, каб сёння ягонае імя для большасці гарадзенцаў значыла роўна столькі ж, сколькі і імёны тых, каго афіцыйна асудзілі на забыццё.

Адразу за кірхай трапляем на вуліцу Валковіча — былую Паўночную. Гэта менавіта тут жыў Сымон Якавюк — выключная постаць у гісторыі беларускага руху. Шчыра кажучы, нават не ведаем, як яго лепш прадставіць: сябар праўлення Гарадзенскай губернскай беларускай управы, Беларускай Цэнтральнай Рады Гарадзеншчыны, Беларускага настаўніцкага саюза, кааператыва «Беларусь», беларускі пасол на сейм... Агент ЧК.


Музей Максіма Багдановіча.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

А вось дом па адрасе **Валковіча, 5а** і разгледзіш не адразу. Найперш ён прываблівае філіграннаю драўлянаю аздобаю. Аднак ёсць куды больш важкія прычыны затрымацца тут даўжэй. Ёсць падставы лічыць,што менавіта ў ім напрыканцы 1930-х гадоў пасяліўся Вацлаў Пануцэвіч — выдатны беларускі гісторык, які, на жаль, у Гародні амаль невядомы.

Паходзіў Вацлаў Пануцэвіч з-пад самой Гародні і да беларускага руху далучыўся тады, калі ў польскай дзяржавы надышлі самыя змрочныя часы. Яшчэ падчас вучобы на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта ён стаў адным з арганізатараў «руху маладых адраджэнцаў». З выбухам Другой сусветнай вайны апынуўся ў Гародні, дзе выкладаў у мясцовай школе. Сябра гродзенскага Беларускага нацыянальнага камітэта. Далейшая супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі раз і назаўсёды ператварылі яго ў «калабаранта». Пазней, апынуўшыся ў эміграцыі, заняўся гісторыяй, аўтар прац «Жамойць і Літва: розныя краіны і народы», «З гісторыі Беларусі, або Крывіччыны-Літвы», «Пачаткі хрысціянства на нашых землях з часоў Ізяслава», «Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919 гадах» ды іншых.

Як і былы дырэктар беларускай школы Уладзімір Федарук, чый дом знаходзіцца па вуліцы **17 верасня, 13**. Дарэчы, ягоны сын праславіўся як выдатны спартсмен-лёгкаатлет, які здабыў не адзін медаль для роднага горада.




Уладзімір Федарук — амаль адзіны, хто на працягу дзесяцігоддзя здолеў захаваць сваю беларускасць і нават спрабаваў яе адстойваць. Летам 1928 года ён нават з'яўляўся кіраўніком курсаў беларускай мовы для настаўнікаў гарадскіх школ. І толькі ў 1939 го-дзе, калі беларускасць, нават тая, што здолела ацалець, зноў пачала разглядацца як палітычная справа, Федарук быў арыштаваны і рэпрэсаваны органамі НКВД.

Не памятаюць (ці не хочуць памятаць) пра Мікалая Марцінчыка — былога старшыню Беларускага студэнцкага саюза ды рэдактара вядомага часопіса «Студэнцкая думка». Ён жыў ужо зусім на ўскрайку «Новага Свету» **(Лермантава, 8)**.

Марцінчык адносіўся да той генерацыі беларусаў, якая прыйшла на змену старым дзеячам часоў БНР. Ён з'яўляўся значнай постаццю сярод тых, хто спрабаваў трымацца легальнай плыні, аддаючы перавагу культурніцкай дзейнасці. Аднак беларускую культуру Марцінчык прасоўваў не таму, што баяўся займацца палітыкай, а таму што ў тых умовах лічыў гэта адзіным магчымым крокам дзеля ўсяго руху. Паказальна, што за сваю дзейнасць ён амаль адначасова быў «адзначаны» з двух супрацьлеглых бакоў. Адна з рэзалюцыяў ЦК КПБ за адмову ад рэвалюцыйнай барацьбы закляйміла яго як «здрадніка» беларускага народа, тады як польскія ўлады, пасля некалькіх арыштаў, наогул выслалі Марцінчыка з Вільні ў мястэчка Нараўка на Беласточчыне. З гэткім мінулым, як у яго, наіўна было чакаць спакойнай працы, тым больш у Гародні, дзе якраз распачалася паляванне на ведзьмаў. Хапіла аднаго бязглуздага даносу, каб патрапіць на восем пакутлівых год у Варкуту! Ягонае чарговае вяртанне ў горад, які паспеў стаць родным, адбылося амаль незаўважаным — пра такіх як Марцінчык, рэабілітаваных былых палітвязняў, услых не казалі. Выратоўваў толькі прафесійны досвед. Для дасведчанага доктара ўрэшце знайшлося месца ў рэнтгенкабінеце дзіцячага дома.

Вось толькі адзін квартал, як яго ўзгадвае беларускі паэт Юрась Пацюпа: «...На бульвары Ленінскага камсамола, што ляжаў тут перпендыкулярна, разам кватаравалі Андрэй Пяткевіч і Юры Карэйва. Яшчэ на адным баку квадрата, на праспекце Будаўнікоў, жыў Юрка Голуб. Побач, у прыватным сектары вуліцы Веры Харужай, разам са сваімі бацькамі пад шатамі садочка пажываў Юры Гумянюк. Далей на поўдзень, у прэстыжным доме па вуліцы Горкага, раскватараваўся Аляксей Карпюк. Непадалёк, крыху на ўсход, на пакручастай вуліцы Каліноўскага, у сярэдняй рукі хрушчоўцы асялілася Данута Бічэль-Загнетава. І, нарэшце, яшчэ ніжэй на поўдзень, у інтэрнаце гістфака, што па завулку Даватара, месціўся Едрусь Мазько...»

Біяграфіі беларускіх дзеячаў цяжка назваць «поўнымі». Часцей за ўсё яны складаюцца з некалькіх сціплых архіўных аркушаў, адной-дзвюх дат ды назвы той ці іншай арганізацыі. Убачыць за ўсім гэтым рэальнага жывога чалавека амаль немагчыма. Вось таму беларускія імёны Гародні хутчэй нагадваюць мартыралог, чым нацыянальны пантэон, дзе памятаць больш істотна, чым пакланяцца. Аднак, як заўважыў Валянцін Тарас: «Агеньчык беларушчыны, які ўсё ж заставаўся, хаваўся ў душы Гродна...»


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Замест заключэння

Ларыса Геніюш калісьці напісала: «Я так люблю Горадню. Гэта горад і маіх дзядоў...».

Шырма, Шалкевіч, Тарасевіч, Цыхун, Шыдлоўскі, Амяльянчык, Валынчык — усіх гэтых людзей аб'ядноўвае тое, што ў нейкі момант у іх жыцці супалі адразу тры стыхіі: Гародня, беларускасць і музыка. Апошняя была для кожнага рознай, аднак яна гарманічна аб'ядноўвала і працягвала дзве іншыя. Больш за тое. У польскім Гродне, савецкім Гродно, як і ў сучасным горадзе, куды хутчэй пабачыш беларускую Гародню менавіта праз музыку ці з музыкай. Прыкладаў безліч: ад першага беларускага хору Грамады беларускай моладзі, што спяваў нацыянальны гімн у мурах бернардзінскага кляштара, да дзіцячага гуртка, які выводзіў ужо ў наш час кранальнае ад «Ластаўкі, прыляціце...» да «Жлобскай нацыі», пасля якой хацелася ці то накласці на сябе рукі, ці то кідаць усё і бегчы на барыкады. А скрыпачка таго ж Апанаса Цыхуна — яна аказалася мацнейшай за духавыя аркестры, якія надрываліся, граючы святочныя маршы чарговым уладарам.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што сёння гэтак цяжка пабачыць беларускае аблічча Гародні. Некалькі шыльдаў на роднай мове не ў стане запоўніць спустошэнне ў сэрцах і галовах сучасных гарадзенцаў. Беларуская Гародня ёсць, гэта мы не бачым яе. Аднак аднойчы мы зноў сустрэнемся ў Гародні і, хто ведае, можа, тады павандруем ужо па праспекце Братоў Луцкевічаў, пройдзем праз завулак Грыкоўскага, а адтуль па вуліцы Слуцкіх паўстанцаў — каб выйсці на плошчу Каліноўскага.

Да спаткання...

**Андрэй Павач**

# «Каб іх ложак часта рыпаў і да года сынок выпаў!»

Павянчаліся **Павел Севярынец і Вольга Шылак**.

Вянчанне палітыка, экс-палітвязня Паўла Севярынца і Вольгі Шылак адбылося ў мінскім Катэдральным касцёле на плошчы Свабоды. На святочную імшу прыйшлі 70 чалавек.

Праваслаўны Павел і Вольга — яна з каталіцкай сям'і — пазнаёміліся пяць гадоў таму.

Вольга нарадзілася ў Вільні, але хутка пасля нараджэння яе бацькі пераехалі ў мястэчка Груздава Пастаўскага раёна. Цяпер бацькі жывуць у вёсцы Баравыя Мядзельскага раёна, гэта на заходнім беразе возера Нарач.

Вольга выкладае польскую мову ў прыватнай адукацыйнай фірме.

Павел — начальнік штаба экс-кандыдата Віталя Рымашэўскага — быў затрыманы і зменшчаны ў СІЗА КДБ. У маі 2011 года быў асуджаны і адпраўлены на «хімію» ў вёску Куплін Пружанскага раёна. Вольга перыядычна адведвала будучага мужа.

Роспіс у ЗАГСе адбыўся за два тыдні да царкоўнага шлюбу. Сведкам з боку Севярынца быў былы палітвязень Зміцер Дашкевіч.

Севярынец і Шылак пазнаёміліся дзякуючы сябру Кастусю Шыталю. Тады Севярынец з Шыталем разам здымалі кватэру, і Шыталь запрасіў Вольгу з сяброўкай у госці.

Паэт Міхась Скобла так сфармуляваў у сваім Фэйсбуку пажаданне маладым: «Каб іх ложак часта рыпаў і да года сынок выпаў!»

А бацька Паўла Кастусь Севярынец, як колішні артылерыст, пажадаў, каб у справе з'яўлення нашчадкаў Павел «паліў, як з гарматы». «Павел нахапаўся грамадскага шчасця па самую макаўку. А цяпер мне хацелася б, каб у яго было шчаслівае сямейнае жыццё. Я яго больш не выхоўваю. Цяпер ужо Павел мяне выхоўвае. Ён і глыбей за мяне думае, і шырэй разумее», — так адказаў бацька на пытанне пра грамадскую дзейнасць сына.

**Сяргей Гезгала**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Асабісты сакратар мітрапаліта Паўла робіць фантастычную кар'еру


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Набор узнагародаў, якіх трэба чакаць 9 гадоў, ён атрымаў **за 40 дзён**.

У цэнтры ўвагі інтэрнаўтаў аказаўся іерэй Дзімітрый Варламаў, асабісты сакратар мітрапаліта Паўла. 21-гадовы студэнт 5-га курса Разанскай праваслаўнай духоўнай семінарыі прыехаў у Мінск след за мітрапалітам.

Блогерка Наталля Васілевіч звярнула ўвагу на тое, наколькі імкліва падымаўся ён апошнія месяцы па кар'ернай лесвіцы.

Вось кароткая храналогія атрымання ім узнагарод за канец 2013 года.

27 кастрычніка Дзмітрый становіцца дыяканам. Гэта першая ступень царкоўнай іерархіі. Менш чым праз месяц, 24 лістапада, Варламаў пераскоквае на другую прыступку — пасвячаецца ў прасвітары.

25 лістапада ён прызначаецца клірыкам Кафедральнага сабора Нараджэння Хрыстова і неўзабаве пачынае «збіраць» праваслаўныя ўзнагароды.

А ўжо 1 снежня Дзмітрый атрымлівае набедранік. Паводле Палажэння аб узнагародах РПЦ, яго маглі ўзнагародзіць не раней чым праз тры гады пасля хіратоніі (атрымання царкоўнай ступені). Але якія тры гады? Дзмітрыю хапае тыдня.

22 снежня яго ўзнагароджваюць камілаўкай. Гэта высокі цыліндрычны галаўны ўбор. Усё тое ж Палажэнне ўказвае, што камілаўку можна выдаць праз тры гады пасля набедраніка. Дзмітрый чакаў яе 20 дзён.

У той жа дзень, 22 снежня, Варламаў прызначаецца клірыкам Епархіяльнага падворка ў гонар святога праведнага Іаана Кранштацкага.

Праз некалькі дзён мітрапаліт Павел атрымлівае прызначэнне ў Мінск. У Беларусь услед за ім прыязджае і сакратар. Падчас першага набажэнства на Дзмітрыю ўжо бачная чарговая ўзнагарода — нагрудны крыж. Па працэдуры яго трэба было чакаць яшчэ тры гады. Сакратар атрымаў яго не больш чым праз 13 дзён.

Агулам — замест 9 гадоў чакання маем 40 дзён.

«Наступнай узнагароды — сану протаіерэя — давядзецца ўсё ж пачакаць, бо для яе патрабуецца ўказ патрыярха, а таксама не менш за пяць гадоў пасля ўзнагароджання нагрудным крыжам. Хоць існуе агаворка, што «ў выключных выпадках узнагарода можа быць дадзеная і да заканчэння гэтага тэрміну», — удакладняе Наталля Васілевіч.

Расследаванне супала па тэрмінах з гей-скандалам у Расійскай праваслаўнай царкве. Гэта дало падставы інтэрнэт-карыстальнікам іранізаваць на гэтую тэму і датычна беларускай сітуацыі.

Аднак Дзмітрый Варламаў мае жонку. Летась ён пабраўся шлюбам з Вольгай Рыжовай. У Разанскай епархіі служыць протаіерэй Міхаіл Рыжоў, старшыня Аддзела па ўзаемадзеянні з праваахоўнымі ўстановамі і судовымі прыставамі. Наталля Васілевіч мяркуе, што ён можа быць цесцем Дзмітрыя.

На наступны дзень пасля з'яўлення інфармацыі ў інтэрнэце Дзмітрый выдаліў сваю старонку з сацыяльных сетак і змяніў там прозвішча на «Моськін». Ягоная 21-гадовая жонка таксама на ўсялякі выпадак прыбрала з сеціва ўсе прыватныя здымкі.

**ЯМ**



**Як Павел здзейсніў цуд**

Мітрапаліт расказаў у эфіры СТБ пра сваю датычнасць да цуду. У Пскова-Пячэрскім манастыры, калі ён ішоў на трапезу, да яго звярнуліся дзве жанчыны, якія везлі ў калясцы скурчанага хлопчыка. Жанчыны з Санкт-Пецярбурга спаслаліся на відзеж хлопчыку старца, малы ўказаў у манастыры на айца Паўла.

Будучы мітрапаліт прапанаваў жанчынам пайсці да мошчаў святога пакутніка і прыкласці да іх хлопчыка. Ужо падчас трапезы святар даведаўся, што пасля прыкладання да мошчаў хлопчык устаў.

Дар тварыць цуды — адзін з аргументаў для кананізацыі святара пасля смерці.

# Педафілы актывізаваліся

Абвастраецца праблема абароны дзяцей **ад сэксуальнага гвалту.**

Дарослыя мужчыны ўсё часцей трапляюць на лаву падсудных за распусту з дзецьмі. Калі яшчэ гадоў пятнаццаць таму праблему маглі ігнараваць — баяліся падымаць шум вакол дзяцей, — то цяпер усе адчуваюць небяспеку, калі не адлоўліваць педафілаў.

**«Спакусіў 10 тысяч разоў»**

Газета Міністэрства ўнутраных спраў «На страже» апублікавала гісторыю сталічных распуснікаў. Старэйшы, якому амаль 60 гадоў, асуджаны на сямнаццаць гадоў турмы (хаця Крымінальны кодэкс прадугледжвае пакаранне толькі да 15 гадоў). Другі яшчэ чакае прысуду.

Абодва фігуранты — у мінулым выхаванцы дзіцячага дома ў Кобрыне, з 1989 па 2002 тройчы судзімыя, у тым ліку за распусныя дзеянні з непаўналетнімі — гвалтавалі падлеткаў у падвале дома, абсталяваным пад майстэрню. Між іншым, там вырабляліся на продаж у Расію падробленыя антыкварныя бронзавыя статуэткі.

Дзетдомаўцы шукалі ахвяр на вуліцах Мінска, а ў цёплы час года ездзілі па краіне, заводзячы знаёмствы з вясковай моладдзю. Прадстаўляліся трэнерамі па веласпорце і футболе, запрашалі падлеткаў запісвацца ў іх секцыю. Для пераканаўчасці на сценах у падвале былі развешаныя некалькі ровараў і плакатаў адпаведнай тэматыкі, была закуплена спартыўная форма. Такая маскіроўка спрацоўвала — дзяцей на «трэніроўкі» прыводзілі нават самі бацькі.

Праўда, асуджаны не назваў колькасць дзяцей, якіх спакусіў. Аднак у знойдзеным у яго натаніку, куды ён запісваў імёны, прозвішчы, узрост і месца жыхарства дзяцей, было выяўлена каля 800 імёнаў. Вядома яшчэ пра два нататнікі, якія ён пачаў весці ў пачатку 2000-х, але паспеў знішчыць.

Многія пацярпелыя, цяпер ужо паўналетнія, адмовіліся ад сведчанняў. Хтосьці завёў сям'ю і не хоча ўспамінаць аб тым, што здарылася, а некаторыя пастаянна прыходзілі да «трэнера» ўжо па ўласным жаданні. Тым не менш, за сорак чалавек пагадзіліся выступіць на судзе.

Другі фігурант назваў колькасць падлеткаў, якіх ён спакусіў за дзесяць гадоў: 8—10 тысяч хлопчыкаў. Але лічба выглядае прыдумкай: гэта трэба было спакушаць па два-тры дзіцяці штодня, без выхадных і адпачынкаў! Але рэальныя лічбы таксама шакуюць. Па справе другога абвінавачанага дапытана



каля 1200 чалавек. Але і супраць яго сведчыць гатовыя мінімум 50-60 чалавек. Такія маштабы распусты!

**Не дачакаўся суда**

У Гомелі за мінулы тыдзень педафілы двойчы траплялі ў стужкі навінаў. 38-гадовага мужчыну адправілі за краты на 12 гадоў. У міліцыю звярнуліся бацькі пяцёх дзяўчатак 9—11 гадоў. Але затрымаць педафіла адразу не ўдалося. На след выйшлі толькі праз працяглы час у Мінску.

У яго была свая схема: не такая мудрагелістая, як у дзетдомаўцаў, але ад гэтага не менш хцівая. Ён знаёміўся з дзецьмі на вуліцы, тлумачыў, што ў яго знаёмага скралі грошы, а дзяўчаткі падобныя да зладзеек. І ён іх адводзіў у пад'езд, дзе мацаў пад адзеннем — нібыта абшукваў.

Іншы гомельскі педафіл прысуду не дачакаўся — павесіўся. 56-гадовы знаходзіўся ў СІЗА. А калі перад канваіраваннем у суд яго адвялі ў памяшканне часовага ўтрымання, накінуў на шыю пятлю. Сумленне замучыла альбо пабаяўся, што на зоне не даруюць такія грахі.

На працягу трох гадоў ва ўрочышчы Чонкі Гомельскага раёна яго ахвярамі станавіліся дзеці, якія адпачывалі ў летніх лагерах. Гамяльчук прыязджаў да іх па начах на сваім скутары. Залазіў у летнікі і мацаў спячых дзяўчатак за палавыя органы. Яго ахвярамі сталі адзінаццаць дзяўчатак 9—14 гадоў.

**Кастусь Матушыч**

**Што ў іншых краінах?**

У Беларусі максімальнае пакаранне за згвалтаванне малалетніх — да 15 гадоў зняволення. У іншых краінах заканадаўства адрозніваецца.

У Расіі за падобныя злачынствы прадугледжана хімічная кастрацыя і зняволенне ад 8 гадоў і да пажыццёвага. Дапускаецца ў якасці дадатковых пакаранняў пазбаўленне права займаць пэўныя пасады альбо займацца пэўнай дзейнасцю на тэрмін да 20 гадоў.

Хімічная кастрацыя таксама практыкуецца ў Польшчы, некаторых штатах ЗША, Ізраілі, Швецыі, Даніі, Канадзе. У іншых амерыканскіх штатах педафілы атрымліваюць нездымальныя электронныя бранзалеты, якія паказваюць паліцыі іх месцазнаходжанне.

А ў Чэхіі дзейнічае добраахвотнае хірургічнае вылягчэнне.

У Германіі педафілаў саджаюць у турму на тэрмін ад шасці месяцаў да дзесяці гадоў. У выключных выпадках тэрмін можа быць падоўжаны. У Іране караюць смерцю — вешаюць.

## Спецназавец уцёк з часткі, бо ў яго забралі планшэт

Пяць дзён **салдат пражыў у лесе.**

21-гадовы Аляксандр знік з 5-й асобнай брыгады спецыяльнага прызначэння ў Мар'інай Горцы (дэсантнікі) уначы 3 студзеня. Каля другой гадзіны заўважылі, што яго няма ў нарадзе. Зніклі таксама рацыя і штык-нож.

Калі праз тры дні інфармацыя набыла розгалас у прэсе, з'явілася ананімная крыніца, якая паведаміла, што хлопец даўно затрыманы. А прычына такога ўчынку тлумачылася тым, што надта захацелася на грамадзянку: збег у суседнюю вёску на дыскатэку. А там выпіў, загуляў. Праўда, маці салдата абвергла гэта. А сама звярнулася ў міліцыю, каб і тыя пачалі пошукі.

Адшукалі ж спецназаўца толькі на пяты дзень. Можна сказаць, што і выпадкова. Жыхар вёскі Скрабінка суседняга з Мар'інай Горкай Чэрвеньскага раёна выклікаў міліцыю: нехта разбіў акно ў яго доме і скраў адзенне і прадукты. Калі прыехаў участковы, убачыў сляды, што вялі ў лес. Там і затрымалі спецназаўца. Ён не супраціўляўся.

Верагодна, што прычынай уцёку салдата мог стаць невялікі інцыдэнт у часці: хлопца «залавілі», калі ён сядзеў за камп'ютарам-планшэтам, што забаронена. За гэта маглі пазбавіць звальнення, у якое ён хутка збіраўся. Эмоцыі, крыўда і падштурхнулі на ўцёкі.

У дачыненні да спецназаўца распачата справа за крадзеж. Яму пагражае таксама адказнасць за дэзерцірства.

**Сяргей Макарэвіч**

**Вышук**



**Не вярнуўся журналіст**

29-гадовы Аляксандр Ганісеўскі 28 снежня 2013 пайшоў з дому ў Мікашэвічах (Лунінецкі раён), куды прыехаў у госці з Расіі, і знік. Прыкметы: рост 170-180 см, валасы цёмныя, вочы карыя. Быў апрануты: чорнае паліто з капюшонам, джынсы, красоўкі. Хто ведае месцазнаходжанне журналіста, звяртайцеся на (033) 666-68-56.




**Махлярыў**

26-гадовага ваўкавысца Віктара Карнача расшукваюць па падазрэнні ў махлярстве. Прыкметы: рост 170-175 см, хударлявы, вочы цёмныя, валасы цёмныя. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, звяртайцеся на: (01512) 7-51-10 альбо 102.

## Сцісла

**Хуткасны расіянін**

У ноч на 7 студзеня на тэрыторыі Баранавіцкага раёна радар зафіксаваў перавышэнне хуткасці аўтамабілем Audi A8. Замест дазволеных 120 км/г расійскі кіроўца ехаў 200 км/г.

Усяго ж за два тыдні на Брэстчыне было спынена 4446 кіроўцаў, якія перавышалі хуткасць. Каля 70% парушальнікаў – з Расіі.

**Доктар у Гродне хаваў факт выбуху ў бальніцы**

Зараз можа на 10 гадоў трапіць за краты.

Следчы камітэт расследуе дзве крымінальныя справы ў адносінах да былога галоўнага доктара Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы. Яго вінавацяць у злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.

«У 2013 годзе ў памяшканні перадаперацыйнага памяшкання бальніцы адбыўся выбух газапаветранай сумесі, два рабочыя атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні, ад якіх пасля памерлі. Названы кіраўнік даў загадзя незаконныя ўказанні падначаленым супрацоўнікам схаваць сляды выбуху на месцы здарэння. Праз гэта была наўмысна знішчана і страчана частка доказаў па крымінальнай справе па парушэнні правілаў аховы працы, што пацягнула па неасцярожнасці смерць двух чалавек. Акрамя таго, не былі прынятыя меры для своечасовай шпіталізацыі пацярпелых», — паведаміў прадстаўнік УСК па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч.

**Хуліган пашкодзіў пяць машын**

Выпадак адбыўся ў ноч на 8 студзеня ў Гомелі, на аўтастаянцы каля дома №8 на вуліцы Сухога. Хуліган крушыў машыны, а ў той момант па вуліцы праходзіў міліцыянер. На 33-гадовага мужчыну заведзена справа па ч.1 арт. 339 КК (хуліганства).

**Жыццё на мільён даляраў**

Бацькі гарадзенкі Юліі Кубаравай, якая загінула пасля пластычнай аперацыі ў сталічным «Экамедсервісе», патрабуюць 10 мільярдаў рублёў кампенсацыі. Па іх словах, яны не вырашылі нажывацца на сямейнай трагедыі, а толькі хочуць пакараць цэнтр. Суддзя пастанавіў арыштаваць маёмасць цэнтра акурат на такую суму. На лаве падсудных па гэтай справе аказаліся экс-генеральны дырэктар, галоўны інжынер і былы доктар-анестэзіёлаг «Экамедсервіса».

**21-гадовая дзяўчына забіла бамжа**

Першы дзень новага года 21-гадовая віцяблянка вырашыла адзначыць з бамжом. Выпівалі, а калі пасварыліся, маладзіца разбіла сабутэльніку галаву. 54-гадовы бомж, ураджэнец Талачына, памёр на месцы.

**Трапіла пад КамАЗ**

13-гадовая школьніца ў Гродне пераходзіла дарогу перад шматтонным грузавіком. Рванулася да раздзяляльнай зоны, але не дабегла. Кіроўца ж КамАЗа дзяўчынкі не заўважыў, бо паварочваў. У выніку школьніца трапіла ў рэанімацыю, дзе і памерла.

**Шукалі па голасе — знайшлі па наркотыках**

Сталічныя міліцыянты знайшлі падазраваных у збіцці 20-гадовага мінчука. 23 верасня трое падлеткаў у пад'ездзе дома па адрасе Сердзіча, 36 пакалечылі хлопца. Яго шпіталізавалі, а пра інцыдэнт паведамілі ў міліцыю. Але праз два тыдні пасля выпіскі яму патэлефанаваў незнаёмец і пагражаў забіць. Падлеткаў вылічылі: двое ўжо паспелі адзначыцца ўжываннем наркотыкаў, трэці цяпер знаходзіцца ў ізалятары за захоўванне наркаты.

**Не паспеў замаліць грахі**

Прадпрымальнік са Жлобіна сем гадоў таму ўзяў у 65 кліентаў перадаплату на выраб мэблі і з 86 мільёнамі рублёў знік. Знайшлі яго міліцыянты толькі ў 2012 у адным з украінскіх манастыроў. Мужчыну дэпартавалі і асудзілі на чатыры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады.

**КМ**



На «Еўрабачанні-2014» ад Беларусі выступіць спявак Тео (Юрый Вашчук). За ягоную песню прагаласавалі члены журы, а вось тэлегледачы аддалі першынство дуэту Макса Лорэнса і ДзіДзюЛі.




15 студзеня ў Купалаўскім тэатры – прэм'ера года: спектакль «Пан Тадэвуш» паводле Адама Міцкевіча ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна.




Выйшаў каляндар «Улюблёныя ў Беларусь: 12 дзяўчат з думкамі аб Радзіме». Стваральнікі, грамадскае аб'яднанне «Альтэрнатыва», спрабуюць з дапамогай дзяўчат данесці ідэю адметнасці і ўнікальнасці нашай краіны.



Літва можа ўвесці еўра ўжо з наступнага года. Калі будзе дадзена зялёнае святло ад Еўрасаюза, на Манетным двары Літвы ўлетку пачнуць чаканіць літоўскі еўра. Адзін бок еўраманет для ўсіх краін аднолькавы, на другім — краінам дазволена вырашаць, як адлюстраваць сваю ідэнтычнасць у агульнай валюце. Па выніках конкурсу літоўцы выбралі «Пагоню».



## Анекдоты і жарты

– Сучасныя беларусы ў пекла не трапляюць.
– Чаму?
– Папярод Бацькі нельга.

* * *

— Якая дзіўная ў вас шпага, месье!
— Гэта арматура, сэр.

* * *

Убачыўшы ў ліфце лужыну, аптыміст думае, што да яго тут ехаў снегавік.

* * *

Ніякія Фэйсбукі і Твітары не заменяць Вам сапраўдных чалавечых адносін укантакце.

* * *

Расія мяркуе, што Беларусь — свабодная, незалежная дзяржава, таму мусіць сама выбраць, быць... рэспублікай, краем ці вобласцю Расійскай Федэрацыі.

* * *

Таксіст прытармазіў каля помніка Леніну, думаючы, што той галасуе.

* * *

Добры дзень, гэта навіны спорту. Так сказаць, невялікі глыток праўды паміж «Панарамай» і прагнозам надвор'я.

* * *

— Спадабаліся вашаму сыночку падарункі?
— Ой ... Пабіў сыночак ўсе падарункі ... і машынку, і танк, і ялінку разбіў, і ўсе цацкі на ёлцы ...
— І мой падарунак разбіў?
— Ды не, ваш малаточак цэлы.

* * *

НАСА забраніравала Беларусі 10 месцаў для незваротнай місіі на Марс. Такіх санкцый свет яшчэ не ведаў. Апазіцыя ўдакладняе спісы.

* * *

Рэкламная акцыя: прывядзі суседа ў Мытны саюз і атрымай газ удвая танней!

## «НН» сто гадоў з вамі

**А.Уласаў [рэдактар «Нашай Нівы] атрымаў пазваленне** выдаваць у Мінску ў беларускай мове часопіс для дзяцей «Іскрачка» і часопіс «Беларуска-літоўскі Эканаміст» са стацціямі ў беларускай, расейскай і польскай мове.

**«НН». №2. 2004.**

**ЖРЭА Партызанскага раёна Мінска** паведаміла Таварыству беларускай мовы, што не працягне кантракту на арэнду офісу. Старшыня ТБМ Алег Трусаў звязвае рашэнне ЖРЭА з будучымі выбарамі ў парламент. На яго думку, сітуацыі з яго арганізацыяй — гэта толькі пачатак масавых «зачыстак».

**«НН». №2, 1914.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 07.01.2014.
Замова №292.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14002